НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 20 (905) 27 мая 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднолёная ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**«Падзеі ва Украіне — гэта апошні цвік у Расійскую імперыю»**

Гутарка са Змітром Дашкевічам. **Старонка 12.**

**«Марцінкевіч ходзіць, а па ім звон звоніць»**

Гісторыя з прыжыццёвым пахаваннем Дуніна-Марцінкевіча — не анекдот. **Старонка 14.**

**«За колькі ты прадаўся, вырадак?»**

Кранальная споведзь рускага студэнта. **Старонка 15.**

# Памерла маці Аляксандра Лукашэнкі

Візіт Лукашэнкі ў Пакістан перанесены з прычыны смерці яго 90-гадовай маці.



### Украінскія карані

Кацярына Трафімаўна Лукашэнка нарадзілася ў 1924 годзе ў Александрыі Шклоўскага раёна. Гэтую вёску многія лічаць і радзімай яе сына, кіраўніка Беларусі. Аднак, паводле біяграфіі, Аляксандр Лукашэнка нарадзіўся ў суседняй Копысі (Віцебская вобласць).

Род Лукашэнкаў ідзе з тэрыторыі Украіны. Бацька Кацярыны нарадзіўся і доўгі час жыў на хутары Панурка ў Сумскай вобласці. Пасля калектывізацыі лёс раскідаў Лукашэнкаў па ўсім свеце, сваякі кіраўніка Беларусі жывуць нават у ЗША.

У аўтабіяграфіі Кацярыны Лукашэнкі пазначана, што яна вырасла ў шматдзетнай сям'і з шасцю дзецьмі. Бацька памёр, калі ёй было 15 гадоў, у 1939 годзе, маці — у 1955.

### Працавала на чыгунцы, ільнокамбінаце і ў калгасе

Уся адукацыя маці Лукашэнкі — чатыры класы александрыйскай школы. У 1944—1949 яна працавала на чыгунцы, а пасля ўладкавалася стужачніцай на Аршанскі льнокамбінат.

«Я ў маці быў адзіны, старэйшае дзіця ў яе памерла. Яна мяне любіла і рабіла для мяне ўсё», — расказваў кіраўнік краіны.

Пасля нараджэння сына Аляксандра Кацярына Лукашэнка вярнулася ў Александрыю не адразу, а толькі праз тры гады. Дакладных звестак пра бацьку кіраўніка Беларусі няма.

У бацькавай хаце жылі Кацярына з сынам, яе сястра Ганна з сям'ёй, а таксама сын трэцяй сястры, Васіль (яго маці з'ехала на цаліну).

У мясцовым калгасе яна працавала даяркай. Канчаткова сышла з працы ў 1983 годзе.

### Адно дзіця, трое ўнукаў, сем праўнукаў

Аляксандр Лукашэнка — адзінае дзіця Кацярыны Трафімаўны. Затое ўнукаў і праўнукаў у яе было багата.

У старэйшага ўнука, Віктара Лукашэнкі, гадуецца чацвёра дзяцей: Вікторыя, Аляксандр, Валерыя і Яраслаў.

У сярэдняга, Дзмітрыя, тры дачкі: Настасся, Дар'я і Аляксандра.

Нарэшце, ёсць яшчэ і малодшы ўнук — Мікалай Лукашэнка.

### Непатрэбны дом на Пераможцаў

Пасля абрання сына на пасаду кіраўніка краіны Кацярына Лукашэнка засталася жыць у Александрыі. Старая бацькоўская хата была ў дрэнным стане, таму жанчыну перасялілі ў новую. Занядбаную хату знеслі, а на яе месцы паставілі альтанку.

Дом Лукашэнкаў узяў на баланс «Дыпсервіс», якому падпарадкоўваюцца рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Цяпер будынак лічыцца гасцявой рэзідэнцыяй.

У сталіцы для маці Аляксандра Лукашэнкі загадзя быў пабудаваны дом у канцы праспекта Пераможцаў. Тады гэта была ўскраіна горада, цяпер будынак апынуўся на гары каля палёў футбольнага манежа.

Аднак паводле словаў жыхароў суседніх шматпавярховікаў, дом для маці Лукашэнкі так і застаўся пустым. Яе пасялілі ў іншым месцы.

### «Я хачу ў вёску»

Блізкая знаёмая Кацярыны Трафімаўны, Зінаіда Рыбакова, дагэтуль жыве ў Александрыі. Яна расказвала, што тую прывозілі ў вёску ў 2012 годзе. «Пасядзелі з ёй, паплакалі за сваё. У хаце ў яе. Яна мне кажа: хто зайздросціць майму жыццю, каб ёй такое. Я не хачу нічога, я хачу ў вёску», — пераказвае сяброўка словы маці Лукашэнкі.

Кацярыну Трафімаўну пахавалі ўвечары 26 мая на вясковых могілках у Александрыі. У жалобных мерапрыемствах браў удзел Аляксандр Лукашэнка.

**Ягор Марціновіч**

# Чаму мы павінны дубасіць Расію за Крым

Беларусь **адмовілася падпісваць** выніковую дэкларацыю саміту Усходняга партнёрства.

Справа ў тым, што гэты дакумент утрымліваў асуджэнне дзеянняў Расіі па анексіі Крыма. Апроч Беларусі, яго не падпісала яшчэ адна краіна Еўразійскага эканамічнага саюза — Арменія. На словах Лукашэнка ўсяляк падтрымлівае тэрытарыяльную цэласнасць Украіны. Пра гэта ён неаднакроць гаварыў і прэзідэнту Пятру Парашэнку, і ў шматлікіх інтэрв'ю. У рэальнасці ж, калі справа даходзіць да адкрытага асуджэння Расіі, усё не так гладка.

Беларусь разам з краінамі-ізгоямі, кшталту КНДР і Зімбабве, была сярод тых, хто летась не падтрымаў рэзалюцыю Генеральнай асамблеі ААН пра тэрытарыяльную цэласнасць Украіны. Цяпер новая адмова падтрымаць Украіну ў гэтым прынцыповым пытанні.

### Паехаў не Кабякоў, а Макей

Супраць Лукашэнкі паранейшаму не знятыя санкцыі Еўрасаюза. Тым не менш той жа прэзідэнт Латвіі Андрыс Берзіньш казаў, што не супраць бачыць Лукашэнку ў Рызе і сустрэнецца з ім. Беларусь да апошняга трымала інтрыгу, хто ж будзе прадстаўляць краіну на саміце Усходняга партнёрства.

Еўрапейскія выданні з інсайдарскіх крыніц паведамлялі, што паедзе прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. Але ў выніку ў Латвію адправіўся кіраўнік МЗС Уладзімір Макей, які прадстаўляў Беларусь і два гады таму ў Вільні. Не было таксама ў Рызе і прэзідэнта Азербайджана Ільхама Аліева.

**Працяг на старонцы 2.**



# «Прашу мяне расстраляць!»

Памочніца выхавацелькі дзіцячага садка напала і скінула з 12 паверха свайго 3-гадовага сына. **Старонка 11.**

Працяг тэмы

# Няглездзячы ні на што, беларус працягвае жыць

«НН» (№19) пісала пра мае цяжкасці з вырабам шыльд "Жыве беларус" у мінскай фірме "Лазер Графікс". Гэтая кантора пагадзілася зрабіць шыльдачку "УДАЧИ", а наконт шыльдачкі "ЖЫВЕ БЕЛАРУС" паведамілі, што з такім зместам яны рабіць не будуць.

Пасля з'яўлення матэрыялу, фірма "Лазер Графікс" вярнула мне праз "Белпошту" ўсе грошы за мой заказ.

Настрой крыху сапсаваўся, але ж здавацца я не збіраўся. Знайшоў аналагічную фірму ў Віцебску, і яны праз дзень зрабілі мне тыя шыльдачкі, яшчэ і на 40 тысяч танней, і яшчэ з дастаўкай да маёй хаты ў Лёзне!

І тут я ўзгадаў словы з песні Юрыя Антонава: "Мы все спешим за чудесами, но нет чудесней ничего...". Людзі збіраюць грошы, каб з лёгкасцю іх потым патраціць за некалькі дзён у якой-небудзь Турцыі, у той час, як побач з домам ёсць прыгожы сасновы бор з чыстым лекавым паветрам. Вось і я, як на тое ліха. звязаўся з Мінскам, калі ў Віцебску маглі зрабіць усё хутчэй і танней.




**Уладзімір Собалеў, Лёзна**

# Чаму мы павінны дубасіць

Працяг са старонкі 1.

Замест яго ў апошні момант паляцеў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Найбольш высока Беларусь была прадстаўлена на самым першым саміце УП у 2009 годзе. Тады ў Празе афіцыйны Мінск прадстаўляў першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка. Гэта было сімвалічна: упершыню Беларусь уступіла ў ініцыятыву, у якой не ўдзельнічае Расія.

У 2011 у Варшаве, пасля брутальнага разгону Плошчы і арышту дзясяткаў актывістаў, Беларусь прадстаўляў на саміце ўсяго толькі пасол Гайсёнак.

### Усходняе партнёрства не павінна быць накіравана супраць кагосьці

Аляксандр Лукашэнка ў дзень сустрэчы ў Рызе выступаў на з'ездзе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, але абмінуць тэму Усходняга партнёрства не змог.

«Украінскія падзеі павінны былі ўсіх навучыць, як трэба берагчы мір. Трэба глядзець на галоўнае, вырашаць гэтую праблему, у тым ліку і ва Украіне, іншых дзяржавах. Не, сабраліся на Усходняе партнёрства. І што? У кожным дакуменце ганьбяць Расію, не проста, дык ускосна», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

«Мы заўсёды былі катэгарычна супраць таго, каб Усходняе партнёрства было супраць некага, — падкрэсліў Лукашэнка. — Але Расія не ўдзельнічае ва Усходнім партнёрстве, чаму завочна без Расіі мы яе павінны дубасіць, у тым ліку за Крым і так далей? Не, у выніковую дэкларацыю хочуць гэта ўціснуць і выступіць супраць Расіі», — адзначыў ён.

«Мы не хочам увязвацца ні ў якія авантуры. Мы хочам, каб у тым ліку і з нашай зямлі ішоў мір. У гэтым сутнасць нашай палітыкі. Здавалася б, усіх гэтая вайна навучыла: трэба быць вельмі асцярожнымі, акуратнымі, трэба вырашаць галоўную праблему», — дадаў Лукашэнка.

### Вінаватыя палітвязні

Яшчэ адным важным пунктам у адносінах Беларусі і Еўрасаюза з'яўляецца пытанне палітвязняў. Варта адзначыць, што напярэдадні сустрэчы ў Рызе ўзмацнілі рэжым утрымання Міколу Статкевічу, а Арцёму Пракапенку адмовілі ў памілаванні. Чакаецца новы суд супраць Юрыя Рубцова. Такім чынам, пытанне не толькі не вырашаецца, але нават ускладняецца.

У Рызе ў справе палітвязняў давялося трымаць удар і міністру Макею. На пытанне ад тэлеканала «Белсат» Макей па-беларуску папрасіў прабачэння, што будзе адказваць па-руску (каб і іншыя журналісты ўсё зразумелі, патлумачыў ён). І сказаў наступнае.

«Я не разумею, пра што вы гаворыце, таму што праблемы палітвязняў не існуе, — сказаў ён. — Так, ёсць людзі, якія знаходзяцца ў турме за ўчыненне канкрэтных правапарушэнняў, за ўчыненне канкрэтных злачынстваў. Я дагэтуль не магу зразумець, як могуць трактавацца гэтак званымі

Былое і дурні

## Вячаслаў Кебіч: БНФ ставіў пытанне пра стварэнне Палескай рэспублікі

Былы прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч даў вялікае інтэрв'ю тэлеканалу БТ. Адна з тэмаў, узнятых падчас гутаркі, датычылася дзейнасці Беларускага народнага фронту на пачатку 1990-ых.

«Я ганаруся, што не даў разваліць дзяржаву нацыяналістам», — паўтарыў свае ранейшыя словы Кебіч, і ў пацверджанне думкі расказаў пра нібыта зробленыя спробы аддзяліць Палессе.

«Нацыяналізм у нас таксама ўзняў галаву. Давайце ўзгадаем, як Беларускі народны фронт у асобе некаторых кіраўнікоў ставіў пытанне пра аддзяленне Палесся. Я размаўляў са многімі палешукамі, якія казалі, што да якіх прыязджалі эмісары. Столькі размоваў пра гэта вялі, каб зрабіць Палескую рэспубліку», — заявіў Кебіч.

**ЯМ**

## Сяргей Навумчык: Кебіч хлусіць

БНФ выступаў за незалежную і непадзельную Беларусь яшчэ тады, калі Кебіч агітаваў за захаванне СССР. Якраз у Пінску ў нас была вельмі моцная суполка БНФ на чале з вялікім патрыётам Беларусі Яўгенам Шатохіным.

А вось хто нязменна мусіраваў тэму Палесся — гэта Мікола Шаляговіч, які ўваходзіў у стваранае (у альтэрнатыву БНФ) супрацоўнікам Саўміну Сяргеем Гайдукевічам так званае «Народное движение Белоруссии».

Водпаведзь Шаляговічу ў прэсе і з трыбуны Вярхоўнага Савета давалі Ніл Гілевіч і дэпутаты Апазіцыі БНФ, а абараняў Шаляговіча дэпутат Лукашэнка. Апошняе, што я чытаў пра Шаляговіча — гэта прапанова ўключыць Беларусь у склад Расеі. У нечым гэта перагукаецца з апошняй кнігай Кебіча, якая ці не ўся — пакаянне за ўдзел у падпісанні Белавежскіх пагадненняў.

# Кніга Арлова выйшла лацінкай

У кнізе Patria Aeterna («Радзіма вечная») — тры апавяданні: «Тры мужы спадарыні Дамінікі», «Каханак яе вялікасці», «Пяць мужчын у лесніchоўцы». Яны перакладзеныя беларускай лацінкай. Выдаў кнігу Аляксей Вараксін.

Выданне надрукаванае невялікім накладам, таму адразу трапляе ў шэраг эксклюзіўных.

Прэзентацыя кнігі Уладзіміра Арлова Patria Aeterna пройдзе 1 чэрвеня на выніковых занятках курсаў «Мова нанова» ў Мінску. Адрас: галерэя «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а). Пачатак а 20:00.

Пасля яна з'явіцца ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

**СМ**




Рэдакцыя рэкамендуе

## «Хай здохне любы падонак, які заклікае ў маёй Радзіме зладзіць крывавую лазню»

Інтэрв'ю са зніклым стваральнікам сайта 1863x.com. **Чытайце на nn.by.**

Апытанні на nn.by

### Як Вы ставіцеся да інтэграцыі Беларусі ў Еўрасаюз і Еўразійскі саюз?

| | | |
|---|---|---|
| я за інтэграцыю ў Еўрасаюз | 1387 | 66% |
| я за інтэграцыю ў Еўразійскі саюз | 84 | 4% |
| я супраць і інтэграцыі з ЕС, і з ЕАЭС | 243 | 12% |
| я за вельмі абмежаваную інтэграцыю з абодвума аб'яднаннямі | 378 | 18% |

Прагаласавала 2092 чалавекі

### Самае чытанае на nn.by за 20—26 мая

1 «Хай здохне любы падонак, які заклікае ў маёй Радзіме зладзіць крывавую лазню»

2 «За сколько ты продался, выродок?» Кранальная споведзь рускага студэнта

3 Скандал «Еўрабачання»: у Расіі цкуюць Паліну Гагарыну за пацалунак з Канчытай Вурст

4 Вызначаны крымінальныя сталіцы Беларусі КАРТА

5 Новы шэдэўр расійскай прапаганды: «Карнікі павесілі апалчэнца разам з цяжарнай жонкай» ВІДЭА

6 «Прашу прызначыць мне смяротнае пакаранне»: у Мінску судзяць жанчыну, якая напаіла і забіла 3-гадовага сына

7 Цемнаскуры гей у студыі НН — гутарка пра талерантнасць

8 Памерла маці Лукашэнкі. Гісторыя жыцця Кацярыны Трафімаўны

9 «Беларускі набат»: новы трэш расійскай прапаганды

10 Віцебскага студэнта забіў сябар за неаплачаны рахунак

Сцісла

### Мікалайчык прысудзілі 13 сутак

Грамадскіх актывістак Вольгу Мікалайчык і Кацярыну Садоўскую затрымалі 29 красавіка каля пасольства Расіі ў Мінску. Мікалайчык прынесла туды так званую «касметычку «Начных ваўкоў» і пакінула пакунак каля пасольства. Жанчын судзілі за дробнае хуліганства і супраціўленне міліцыі. Кацярыну Садоўскую аштрафавалі 10,8 мільёна рублёў.

### Расія вырыла ўздоўж мяжы з «ДНР» і «ЛНР» 100 км раваў

У Растоўскай вобласці ўздоўж дзяржаўнай мяжы Расіі ўзведзена больш за 40 км загараджэнняў і пракапана каля 100 км раваў. Такія дзеянні былі зроблены для спынення незаконнага абароту зброі і «забеспячэння стабільнасці рэгіёну».

### «Афіцыйнае» беспрацоўе вырасла ўдвая

Колькасць зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі на канец красавіка склала 43 тысячы. Год таму іх было 22 тысячы. Галоўная прычына — «закон аб дармаедах».

### Палякі супраць увядзення еўра

Колькасць праціўнікаў увядзення ў Польшчы адзінай еўрапейскай валюты ўзрасла да рэкорднага ўзроўню — 70% грамадзян. Крытыкі баяцца павышэння цэн, а прыхільнікі запэўніваюць, што гэта аблегчыць працу бізнэсменаў.

**СМ, ЯМ**

# Расію за Крым


Віктар Гіліцкі, KP.BY

палітычнымі зняволенымі людзі, якія кідаюць кактэйлі Молатава, не мае значэння — у будынак расійскага пасольства, у будынак Федэрацыі прафсаюзаў, у будынак Міністэрства абароны».

На заўвагу пра тое, што экскандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікалай Статкевіч, які дагэтуль знаходзіцца у турме, не кідаў кактэйлі Молатава, Макей заявіў: «Гэта асобная гісторыя. Вы можаце паглядзець відэа, якое транслявалася па заходніх сродках масавай інфармацыі, як ён заклікаў уварвацца ў будынак урада некалькі гадоў таму пасля прэзідэнцкіх выбараў».

## Макей: «Дзякуючы так званым палітвязням і прасоўванне Беларусі ў кірунку Еўропы стопарыцца»

«Дзякуючы вось гэтым так званым палітвязням і прасоўванне Беларусі ў кірунку Еўропы крыху стопарыцца, запавольваецца. Чаму? Таму што яны вывелі людзей на плошчу, кінулі, стварылі праблему. Вынікі ж нашых выбараў тады ацанілі ўсе нармальна і станоўча. Пытанне было толькі да тых падзей, якія здарыліся пасля выбараў. І пытанне было толькі да занадта эмацыйнай, з падказкі нашай апазіцыі, ацэнкі Еўрасаюзам гэтых падзей. Таму ніякіх палітвязняў у Беларусі няма», — падкрэсліў кіраўнік МЗС Беларусі.

Вось так па-майстэрску Макей знайшоў «вінаватых» у тым, чаму беларуска-еўрапейскія адносіны не прасоўваюцца наперад. Калі казаць агулам, то рыжская сустрэча не прынесла ніякіх зрухаў. У вялікай ступені яна была фармальнай, а не лёсавызначальнай для краін рэгіёна. Праз два гады такі саміт прыме Кішынёў. У краін-удзельніц УП ёсць час больш грунтоўна падрыхтавацца да гэтай сустрэчы.

**Зміцер Панкавец, Рыга — Мінск**

# Арцём Шрайбман: У Рызе Беларусь панесла іміджавыя страты

Палітычны аглядальнік партала tut.by Арцём Шрайбман прысутнічаў на саміце Усходняга партнёрства ў Рызе, а перад тым узяў інтэрв'ю ў Дональда Туска ў Брусэлі.



**«Наша Ніва»: Пра які галоўны вынік Рыжскага саміту можна гаварыць?**

**Арцём Шрайбман:** Гэта поўнае ўсведамленне ўсімі ўдзельнікамі працэсу, у тым ліку Расіяй, крызіса Усходняга партнёрства. Сам саміт прайшоў у атмасферы расчаравання як з боку ўдзельнікаў, гэтак і арганізатараў. Нездарма старшыня Еўрасаюза Дональд Туск пачаў свой выступ напярэдадні афіцыйных мерапрыемстваў словамі: «Ад гэтага саміту не трэба многага чакаць». Відавочна, што настрой не самы пазітыўны гэта задало.

Тут ёсць некалькі фактараў. Так званыя «выдатнікі» Усходняга партнёрства — Грузія, Украіна, Малдова — незадаволеныя тымі тэмпамі, якімі ідзе збліжэнне з Еўропай. Нават пагадненне аб адмене візавага рэжыму будзе прынятае не раней за канец 2016 года. У Еўрасаюзе паказалі, што ніякага патурання яны допускаць не будуць, усе тэхнічныя патрабаванні давядзецца выконваць. Перспектыва сяброўства гэтых краін у ЕС пакуль не разглядаецца.

А для Беларусі, Арменіі, Азербайджана стала відавочнай адсутнасць сур'ёзнай парадку дня Усходняга партнёрства. Усе дасягненні ў беларуска-еўрапейскіх адносінах звязаныя з двухбаковымі адносінамі, а не ў рамках УП.

**«НН»: Міністр замежных справаў Уладзімір Макей вонкава не надта быў расчараваным.**

**АШ:** Ды не, беларускі бок быў расчараваны тым, што не атрымалася парафіраваць пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму. Па маіх звестках, яшчэ за месяц да саміту быў сур'ёзны настрой парафіраваць гэтае пагадненне. І літаральна за 2—3 тыдні з'явіліся тэхнічныя рознагалоссі, ініцыяваныя еўрапейскім бокам. Уладзімір Макей гэта рэзкавата назваў «тэхнічнымі зачэпкамі».

Я не бачу нічога пазітыўнага, што гэты саміт прынёс Беларусі: мы нічога не заключылі з ЕС, мы не атрымалі палёгкі ў візавым рэжыме. Але самае галоўнае — іміджавыя страты. Беларусь прайшла ва ўсім свеце як краіна, што заблакавала выніковы дакумент з асуджэннем анексіі Крыма.

**«НН»: Рэзалюцыя ў выніку ўсё ж была падпісаная, у тым ліку і Беларуссю.**

**АШ:** Так, але туды была дададзеная фраза, што толькі краіны ЕС гавораць аб асуджэнні анексіі Крыма, а краіны Усходняга партнёрства захоўваюць за сабой такое меркаванне, якое было выказанае цягам галасавання на асамблеі ААН. Гэта выстаўляе Беларусь не ў самым лепшым святле.

**«НН»: Для чаго тады Беларусь застаецца ў праграме УП, калі ніякіх бонусаў не атрымлівае?**

**АШ:** У самыя пікавыя моманты напружання ў адносінах з Расіяй беларускае кіраўніцтва рабіла такія цікавыя манеўры ў бок Захаду. Глядзіце, маўляў, расіяне, у нас і другое крыло ёсць у геапалітыцы. Гэта, канечне, блеф. Але раней спрацоўвала. Не ўпэўнены, ці спрацуе цяпер, бо настрої ў Крамлі больш ваяўнічыя. Усходняе партнёрства дазваляе паказаць, што мы не зацыкліліся толькі на інтэграцыі з Расіі, што мы не поўны сатэліт, што ў нас ёсць самастойная палітыка.

Другі момант. Калі мы шырэй паглядзім на УП, то ўсе еўрапейскія чыноўнікі гавораць пра індывідуалізацыю адносін з краінамі-ўдзельніцамі Усходняга партнёрства. Гэта фактычна, тое пра што завуаляванa гаварыў Мінск з моманту стварэння УП. Калі нехта не хоча гаварыць аб правах чалавека, то давайце будзем гаварыць аб гандлі, інвестыцыях, мадэрнізацыі. Гэта рэчы, пра якія Мінску гаварыць камфортна. Цяпер УП будзе якраз рухацца ў гэтым кірунку.

Дональд Туск і іншыя еўрапейскія чыноўнікі гаварылі, для мяне было вельмі паказальным, пра State-building (дзяржаўнае будаўніцтва). Цяпер мэта УП — стварэнне не кола дэмакратычных устойлівых краін вакол сябе, а проста ўстойлівых. На першы план выходзіць тое, каб «буферная зона» паміж ЕС і Расіяй не стварала праблем ЕС, не была зонай канфліктаў. Калі казаць у такой парадыгме, то Беларусь выбіваецца ў «выдатнікі». Мы — адзіная краіна ЕС, якая цалкам кантралюе свае межы, у нас няма войнаў і этнічных сутычак.

У звязку з украінскім канфліктам мы можам прадаваць сваю замшэлую стабільнасць на экспарт.

**«НН»: Напярэдадні саміту Вы сустракаліся ў Брусэлі з Дональдам Тускам. Ці ёсць спадзяванне, што ЕС будзе прымяняць новую палітыку ў дачыненні да Беларусі?**

**АШ:** Тут на першы план выходзіць наша роля ў расійска-ўкраінскім канфлікце, наша міратворчая місія. Цяпер гэта будзе нашай «азербайджанскай нафтай», якую мы можам прапанаваць ЕС. Можа пашырыцца аб'ём тэхнічнай дапамогі, непалітычнага супрацоўніцтва, можа быць, нават крэдытнага. Мы хутчэй за ўсё адчуем прагрэс у візавых пытаннях. Але для больш істотнага прагрэсу ў адносінах, зняцця санкцый Мінск не дачакаецца да вызвалення палітвязняў. Калі Беларусь задавальняе такі фармат адносін, калі ў палітыцы ўсё заморожана, а іншыя сферы развіваюцца, то калі ласка. Калі не, то Мінск павінен першым рабіць крокі насустрач.

**Гутарыў ЗП**

# Літвіна: Беларусь найбольш уразлівая для расійскай прапаганды

Падчас саміту ў Рызе прайшоў і 1-ы медыяфорум Усходняга партнёрства. Некалькі сотняў журналістаў з Беларусі, Украіны, Малдовы, Грузіі, Азербайджана, Арменіі, а таксама краін Еўрасаюза сабраліся разам, каб абмеркаваць сітуацыю ў сферы СМІ.

Вялікая частка дакладаў была прысвечаная расійскай прапагандзе, а таксама сродкам супрацьстаяння ёй.

Дырэктар Асацыяцыі незалежнай прэсы Малдовы Петру Макавей нават прапанаваў Еўрасаюзу націснуць на ўрады краін Усходняга партнёрства, каб яны больш актыўна супрацьстаялі расійскай прапагандзе.

На думку Макавея, улады Малдовы недастаткова ўвагі надаюць гэтаму пытанню. А вынікі апошніх парламенцкіх і мясцовых выбараў у Малдове сведчаць пра ўзмацненне прарасійскіх настрояў.

Гэтую ж тэму закранула і былая старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна. Яна адзначыла, што крызіс дзяржаўных СМІ ў Беларусі праявіўся падчас падзей на Майдане і баявых дзеянняў на Украіне, калі падкантрольныя ўладзе СМІ трапілі ў своеасаблівы ступар і без падказкі зверху не ведалі, як асвятляць гэтыя падзеі.

Эксперт зазначыла, што Беларусь — найбольш уразлівая краіна рэгіёна. «Расійская прапаганда ў Беларусі падае ва ўдзячную глебу, — сказала Літвіна. — Дзве трэціны беларусаў давяраюць расійскім СМІ. Па дадзеных сацыёлагаў, больш за 60% жыхароў Беларусі станоўча паставіліся да анексіі Крыма».

На думку Літвіной, найменш падпадаюць пад расійскую прапаганду чытачы і гледачы незалежных СМІ. Таму падтрымка незалежных выданняў павінна быць прыярытэтнай у палітыцы Еўрасаюза.

Уступіў у дыскусію з Літвіной намеснік начальніка ўпраўлення прававой і кадравай работы Міністэрства інфармацыі Беларусі Юрый Бябешка.

Ён адзначыў, што беларускае заканадаўства развіваецца «з улікам нацыянальных асаблівасцяў». Што менавіта гэта значыць, потым многія ламалі галовы.

Таксама Бябешка даў лічбы, што ад 1 студзеня па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі было заблакавана 18 сайтаў. 15 з іх распаўсюджвалі наркотыкі, адзін — з дзіцячай парнаграфіяй, а яшчэ два — за табуяваную лексіку.

На думку чыноўніка, гэта не супярэчыць сусветным тэндэнцыям. Але нічога не было сказана пра снежаньскую блакіроўку незалежных інфармацыйных рэсурсаў.

Адзін з гасцей форуму, армянскі журналіст Барыс Навасардзян, у выніку прапанаваў вырашыць праблему беларускіх СМІ радыкальна — зачыніць Міністэрства інфармацыі. На што атрымаў сваю порцыю апладысментаў.

**ЗП, Рыга — Мінск**

# Меркель спытала ў Лукашэнкі, чаму ён не вызваляе палітвязняў

Адбылося гэта падчас сустрэчы ў Мінску «нармандскай чацвёркі» 11—12 лютага. Пра размову стала вядома толькі цяпер.

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька напісаў у фэйсбуку, што Меркель расказала пра размову з кіраўніком Беларусі «ў фармаце на траіх».

«На сваей дрэннай рускай мове я наўпрост спытала Аляксандра Лукашэнку, чаму ён не вызваляе палітычных вязняў. Ён адказаў, што ў Беларусі палітвязняў няма», — перакazвае словы Меркель Лябедзька.

Як можна меркаваць, беларускі апазіцыйны палітык даведаўся пра размову кіраўнікоў Нямеччыны і Беларусі ў кулуарах Рыжскага саміту Усходняга партнёрства.

**ЗП**

Лукашэнка загадаў стварыць прафсаюз на кожным прадпрыемстве, **незалежна ад формы ўласнасці**.

# «Прафсаюзы мусяць вырастаць не зверху, а знізу»

Прафсаюзны рух у Беларусі ахоплівае практычна кожнага. Па інфармацыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, 94,1% працоўнага насельніцтва краіны (а гэта каля 4 млн чалавек) з'яўляюцца сябрамі прафсаюзаў, у асноўным у складзе прадзяржаўнай ФПБ. Аднак Лукашэнку гэтага падалося мала. У пятніцу 22 мая на VII з'ездзе ФПБ кіраўнік краіны даручыў прэм'ер-міністру Кабякову стварыць да сярэдзіны 2016 года прафсаюзныя ячэйкі на прадпрыемствах усіх формаў уласнасці.

Вядома, у першую чаргу меліся на ўвазе прыватныя прадпрыемствы. Прафсаюзы таксама будуць не абы-якія, а аўтаматычна ўвойдуць у склад ФПБ. Неабходнасць прымусовай паўсюднай «прафсаюзацыі» Лукашэнка патлумачыў клопатам пра правы рабочых. Маўляў, у прыватнікаў няма нікога, каб абараніць тых ад наймальнікаў. Лукашэнку падтакнуў і старшыня ФПБ Міхаіл Орда, які заявіў, што на прыватных прадпрыемствах «ідзе прыхаванае супрацьдзеянне стварэнню прафсаюзаў».


49-гадовы Міхаіл Орда трапіў у прафсаюзнікі з камсамольцаў.

### Грошы і папулізм

Старшыня Прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) — аднаго з нешматлікіх беларускіх незалежных прафсаюзаў — Генадзь Фядыніч лічыць, што ФПБ проста спатрэбіліся сродкі: «Дадзенае пытанне ў мінулыя гады распрацоўваў яшчэ былы кіраўнік ФПБ Леанід Козік. Ён хацеў, каб за супрацоўнікаў, якія не ўваходзяць у прафсаюз, наймальнікі плацілі 1% ад заробку (столькі, колькі і сябры ФПБ — «НН»). Можна зрабіць пэўныя вывады, што ў ФПБ не хапае грошай для аплаты новых функцыянераў».

Падштурхнуць Лукашэнку ўзяцца за прафсаюзнае пытанне мог і просты папулізм перад выбарамі. «Мне падаецца, што перад усім гэта звязана з жаданнем спадабацца публіцы ў зале, прэзентаваць сябе як чалавека, які клапоціцца аб працоўных краіны», — кажа лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) Аляксандр Ярашук.

### Стварай, ці будзе горш

Каб падкрэсліць, што справа сур'ёзная і адмоваў стварэць прафсаюзы ён цярпець не будзе, Лукашэнка прывёў прыклад мабільнага аператара Velcom, дзе ўласнікі адмаўляліся стварыць падкантрольны ФПБ прафсаюз: «Я спачатку з Velcom забраў усіх дзяржаўных служачых, іх тэлефоны перавялі на МТС. Забегалі вакол. Я сказаў: яшчэ будзеце дрэнна сябе паводзіць у Беларусі, не будзеце ўлічваць нашы рэаліі, не будзеце працаваць на наш народ — страціце наогул кампанію».

Пры гэтым і Лукашэнка, і Орда «забылі» ўзгадаць, што адным з прынцыпаў ФПБ і яе дзейнасці з'яўляецца «добраахвотнае ўступленне ў ФПБ і выхад з яе».

«У «Еўраопце» націснулі на ўладальнікаў, і тыя стварылі прафсаюз, — прыводзіць іншы прыклад Генадзь Фядыніч. — Але ж гэта «жоўты» прафсаюз, як іх называюць за мяжою, прафсаюз, што падпарадкоўваецца наймальнікам. Зразумела, што ніякіх рабочых такі прафсаюз абараніць не можа. Прафсаюзы мусяць вырастаць не зверху, а знізу. Усё, што робіцца штучна, не будзе працаваць».

**Кірыла Хілько**

## У «ЛНР» забілі баевіка Мазгавога

Пры замаху ў самаабвешчанай «Луганскай народнай рэспубліцы» 23 мая загінуў камандзір батальёна «Прывід» Аляксей Мазгавы. Разам з ім загінула і яго памочніца Ганна. Мазгавы памёр пасля цяжкага ранення. Машыну палявога камандзіра абстралялі, калі яны выязджалі з Алчэўска ў Луганск. Адзначаецца, што Ганна памерла на месцы, а Мазгавы — праз 40 хвілін.



Спачатку аўтамабіль быў падарваны пры дапамозе выбуховага прыстасавання, а пасля гэтага быў абстраляны з кулямёта.

2 мая стала вядома, што супрацоўнікі спецслужбаў самаабвешчанай «Луганскай народнай рэспублікі» ў ходзе спецаперацыі забілі палявога камандзіра атрада луганскіх сепаратыстаў Аляксандра Бяднова з пазыўным «Бэтмен». Генпракуратура даручыла затрымаць Бяднова і яго байцоў і забяспечыць іх яўку на допыт. Пры затрыманні 1 студзеня 2015 Бяднoў аказаў узброены супраціў. У выніку завязалася перастрэлка, і ён быў забіты, а яго байцы — затрыманыя.

**АГ**

## Новы шэдэўр расійскай прапаганды: «Карнікі павесілі апалчэнца разам з цяжарнай жонкай»

Вайна ва Украіне паказала, **на якія цуды здатны** інфармацыйны фронт канфлікту.

Метады прапагандыстаў у асноўным прымітыўныя, але дзейсныя: меркаванне выдаецца за факт, шматразова паўтараюцца антыўкраінскія тэзісы ды шляхам падману і гульні на звычайных чалавечых пачуццях распальваецца варожасць. Адзін з найвядомейшых прыкладаў — «укрыжаваны ўкраінскімі карнікамі хлопчык», якога ніхто, акрамя гераіні сюжэта «Першага канала», не бачыў.

На мінулым тыдні тэлеканал НТВ са спасылкай на «генпракуратуру ЛНР» адрапартаваў аб выяўленні групы, адказнай за «забойства» апалчэнца і яго цяжарнай жонкі. Пры гэтым відэа да навіны адназначна можна ставіць у адзін шэраг з папярэднімі шэдэўрамі расійскай прапаганды — на ім бачна, як некалькі чалавек у камуфляжы з жоўтым скотчам на рукавах «вешаюць» двух чалавек пасярод хвойнага лесу, але пры гэтым на запісе адсутнічае гук, а сама пастаноўка знятая так няўдала, што на 32 і 36 секундзе з-за спіны «цяжарнай жонкі» выглядае вяроўка, якой яна абвязаная ля пояса, а «кат» увесь час разварочвае целы так, каб гэтая вяроўка не трапіла ў кадр (абвязванне вяроўкай пояса і фіктыўная вяроўка на шыі — вядомы кіношны фокус для здымкі сцэнаў з павешаннем). Увогуле, на відэа шмат падазроных супярэчнасцяў — ад нетыповага для Данбаса хвойнага лесу да атсутнасці канвульсій у «павешаная». Што там казаць, калі нават на сайце НТВ каментатары выказвалі сумнеў у рэальнасці відэа, але ўсё роўна клялі «хунту».

Цікава, што ўпершыню гэтае відэа з'явілася на прэс-канферэнцыі «намесніка генпракурора ЛНР», які паведаміў, што відэа нібыта знойдзена на тэлефоне забітага ўкраінскага вайскоўца. Але ж «намеснік генпракурора» не даў рады адказаць на пытанне лаяльных журналістаў аб марцы тэлефона, які здымае з такой якасцю і пры гэтым не запісвае гук.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Міхалок атрымаў пасведчанне на жыхарства ва Украіне



Лідар гурту Brutto Сяргей Міхалок і яго прадзюсар Антон Азізбекян 25 траўня атрымалі пасведчанні на пастаяннае пражыванне ва Украіне. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Дзяржаўнай міграцыйнай службы Украіны.

Як адзначаецца, дакументы на жыхарства Міхалку і Азізбекяну ўручыў кіраўнік ГМС Сяргей Радутны.

«У студзені сёлета міністр культуры Украіны Вячаслаў Кірыленка падаў хадайніцтва ў МУС з просьбай даць дазвол на пражыванне для гэтых двух артыстаў як дзеячаў культуры, іміграцыя якіх адпавядае інтарэсам Украіны, каб падтрымаць імідж Украіны як дзяржавы, у якім гарантаваныя магчымасці для свабоднага выказвання ўласных поглядаў і перакананняў, у тым ліку праз творчую дзейнасць, а таксама ўлічыць у гэтым рашэнні пазіцыю гурту па падтрымцы Украінскай Рэвалюцыі годнасці і іх уклад у развіццё ўкраінскай музыкі», — сказана ў паведамленні.

**Лявон Максюта**

## Так вырашылі грамадзяне вольнай і дэмакратычнай Польшчы — Камароўскі пра абранне Дуды

Дзейны прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі павіншаваў Анджэя Дуду з перамогай у другім туры прэзідэнцкіх выбараў, паведамляе Wyborcza.

«Даражэнькія, не ўдалося гэтым разам. Так вырашылі грамадзяне вольнай і дэмакратычнай Польшы. Дэмакратыя заключаецца ў тым, што вынікі шануюцца», — сказаў прэзідэнт Браніслаў Камароўскі пасля абвяшчэння вынікаў экзітполаў.

Камароўскі павіншаваў пераможцу Анджэя Дуду. «Я зычу яму паспяховага прэзідэнцтва, бо я хачу дабра Польшчы», — сказаў ён.

Анджэй Дуда набраў 51,5% галасоў, а Браніслаў Камароўскі — 48,5%. Інтрыга захоўвалася да апошняга.

Камароўскі (яму цяпер 62 гады) кіраваў краінай з 2010 года, пасля таго, як у авіякатастрофе загінуў прэзідэнт Лех Качыньскі.



Партыя Дуды «Закон і справядлівасць» лічыцца больш кансерватыўнай, чым «Грамадзянская платформа». Але ў цэлым далейшы курс Польшчы не зменіцца.

41-гадовы Дуда, напрыклад, выступае супраць абортаў, аднапалых шлюбаў і ЭКА (экстракарпаральнае апладненне). Больш скептычна ставіцца да ЕС і выступае за павелічэнне дзяржаўнай падтрымкі менш забяспечаных слаёў насельніцтва. Дуда карыстаецца большай папулярнасцю ва ўсходніх раёнах Польшчы, напрыклад на мяжы з Беларуссю ці Украінай.

**Мікола Бугай**

# Колькі зарабляюць у Кітаі?

Заробкі кітайцаў імкліва растуць, а дысцыпліна працы падтрымліваецца **дзякуючы беспрацоўю.**

Паводле падлікаў Міжнароднага валютнага фонду, летась кітайская эканоміка стала самай вялікай у свеце, абышоўшы ЗША. Азіяцкая краіна з насельніцтвам $1,36 мільярда мае гіганцкі патэнцыял, і гэтым спрабуе скарыстацца Беларусь.

Па словах міністра эканомікі Уладзіміра Зіноўскага, Кітай выдзеліць Беларусі льготны крэдыт памерам $3 мільярды, яшчэ $4 мільярды атрымаюць беларускія банкі для фінансавання бізнэс-праектаў.

Большасць кітайскіх крэдытаў — «звязаныя»: яны прадугледжваюць, што ў Беларусь прыедуць на працу тамтэйшыя работнікі. У нашай краіне кітайцы займаюцца адразу некалькі буйнымі праектамі. Азіяцкія будаўнікі ў Мінску зарабляюць $1000—1500 у залежнасці ад аб'ёму выкананай працы.

На колькі гэта адрозніваецца ад заробкаў у іх на радзіме?

У Кітаі прынята называць гадавы заробак, а не месячны, як у нас. Паводле дадзеных Нацыянальнага бюро статыстыкі, у 2014 годзе сярэдні заробак у краіне вырас да $740 на месяц. Сфера працы істотна ўплывае на даходы. Заробак вагаўся ад $355 у сельскай гаспадарцы да $1370 — у інфармацыйных тэхналогіях.

«Самае складанае для кітайца — гэта знайсці працу, бо свабодных месцаў заўсёды менш, чым ахвотных. Людзі без адукацыі гатовыя працаваць па 10—12 гадзін на дзень за $200—300», — расказвае 25-гадовы Аляксей, які вучыцца ў Шанхаі.

Афіцыйны ўзровень беспрацоўя складае 4%. Гэта тыя, хто стаіць на дзяржаўным уліку. Паводле незалежных ацэнак, рэальная лічба дасягае 20—35% — гэта больш за 200 мільёнаў людзей без працы.

Мінімальны заробак залежыць ад рэгіёна. Напрыклад, у самай беднай правінцыі, Хэйлунцзян (Прыамур'е), якая знаходзіцца на мяжы з Расіяй, мясцовыя ўлады гарантуюць работнікам $180 штомесяц.

«У вялікіх гарадах узровень заробкаў іншы. У Шанхаі ці Пекіне кваліфікаванаму работніку можна разлічваць на $1000—1500, — працягвае Аляксей. — Праўда, шмат з'ядае арэнда кватэры, бо ў мегаполісах замежнікі з высокімі даходамі «разагналі» цэны на нерухомасць. Апошнія месяцы лічбы змяншаюцца, але ўсё адно знайсці варыянт аднапакаёўкі ў цэнтры танней за $500 малаверагодна. У спальных раёнах — магчыма, але тады будзеш бясконца стаяць у дарожных заторах. У Шанхаі ўжо жыве 25 мільёнаў чалавек, гэта бясконцая чалавечая плынь».

**Ягор Марціновіч**

**Сярэдні заробак у Беларусі — $452**

Сярэдні заробак «брудным» у Беларусі ў красавіку склаў 6,54 мільёна рублёў. За месяц кожны беларус пабагацеў на 52 тысячы рублёў. У Мінску заробкі тым часам дасягнулі 8,8 мільёна, гэта $608.

У Расіі пасля ўмацавання нацыянальнай валюты сярэдні заробак вырас да $620.




**У 2010-м сярэдні заробак у Беларусі і Кітаі складаў $500. На сёння беларускі ўпаў да $450, кітайскі вырас да $740**

TUT.BY.

Кітайскія будаўнікі ў Мінску.

# З Расіі будуць спаганяць $50 мільярдаў

Гаагскі суд прызнаў **нацыяналізацыю «Юкаса»** незаконнай.

Былыя акцыянеры расійскай нафтавай кампаніі «Юкас» звярнуліся ў суды ЗША, Францыі і Вялікабрытаніі. Аналагагічныя пазовы будуць пададзеныя ў суды Бельгіі і Нідэрландаў. Нафтавікі патрабуюць спагнаць з Расіі $50 мільярдаў паводле рашэння Гаагскага суда, вынесенага ў ліпені 2014 года. Гэтыя грошы — кампенсацыя за фактычную нацыяналізацыю «Юкаса» расійскімі ўладамі, якая адбылася ў 2004 годзе. Тую сітуацыю суд трактаваў як парушэнне Энергетычнай хартыі.

Гаагскі суд даў Расіі паўгода на выплату, аднак з 16 студзеня 2015 на суму пачалі налічвацца працэнты. Штодзень доўг павялічваецца на $2,6 мільёна.

Расейцы не збіраюцца плаціць. Яны прызнаюць, што падпісалі Энергетычную хартыю, аднак расійскі парламент так і не ратыфікаваў дакумент. Аднак цалкам ігнараваць рашэнне міжнароднага суда Расія не можа.

Інтарэсы былых акцыянераў «Юкаса» прадстаўляе кампанія Group Menatep Limited на чале з Цімам Осбарнам, які патлумачыў схему прымусовага спагнання. Паводле яе, суд з еўрапейскіх дзяржаў павінен пацвердзіць, што рашэнне Гаагскага суда мае сілу на тэрыторыі краіны. У такім выпадку экс-акцыянеры «Юкаса» будуць шукаць маёмасць Расіі на тэрыторыі гэтай краіны і падаваць пазовы аб яе канфіскацыі.

«Расія вельмі часта ўдзельнічае ў міжнародным авіякасмічным салоне ў Фарнбара ў прыгарадзе Лондана, паказвае там свае самалёты. Інвестары могуць паспрабаваць праз мясцовы суд Вялікабрытаніі забраць гэту маёмасць Расіі. Мясцовая паліцыя накладзе на самалёты часовае спагнанне. Далей лакальны суд разгледзіць патрабаванні аб выкананні гаагскага рашэння», — прыводзіць прыклад адвакат Валянцін Пятроў у каментары The Village.

Пры гэтым некамерцыйныя фонды, амбасады, гандлёвыя прадстаўніцтвы краіны валодаюць імунітэтам, таму спагнаць іх маёмасць не атрымаецца.

Прэцэдэнты, падобныя да справы былых акцыянераў «Юкаса», ужо былі. Швейцарская кампанія «Нога» яшчэ перад развалам Савецкага Саюза выдзеліла ўраду РСФСР крэдыт памерам $420 мільёнаў. Грошы былі патрэбныя на куплю харчавання, а ўзамен швейцарцы меліся атрымаць нафтапрадукты. Неўзабаве дамова была разарваная, а бакі выказалі прэтэнзіі адзін аднаму. Міжнародны суд стаў на бок «Ногі».

Спробы арыштаваць расійскую маёмасць працягваліся 30 гадоў! Самалёты, караблі, калекцыя карцін, рахункі дзяржаўных кампаній — усё гэта арыштоўвалася ў розных еўрапейскіх краінах і рабілася прадметам судовых спрэчак. У большасці выпадкаў Расіі ўдавалася даказаць сваю непадсуднасць інстанцыі, якая выносіла рашэнне супраць яе. Тым не менш цалкам выйсці сухімі з вады расейцам не ўдалося. Па розных ацэнках, «Нога» атрымала ад 50 да 100 мільёнаў еўра.

Справа аб кампенсацыі былым акцыянерам «Юкаса» таксама можа расцягнуцца на доўгія гады. У сёлетні бюджэт Расіі выдаткі на выплату доўга не закладзеныя.

**ЯМ**

## Сцісла

**ВУП у студзені-красавіку знізіўся на 2,6%**

Вытворчасць прамысловасці ўпала на 7,5%, а капітальныя інвестыцыі — на 5,9%. Гэта паказчык крайняй сыравіннай залежнасці беларускай гаспадаркі. Падзенне цэнаў на нафту паставіла эканоміку нашай краіны ў горшае становішча, чым нават расійскую.

**Новых гіпермаркетаў не будзе**

Яшчэ 11 гіпермаркетаў адкрыюцца ў Мінску ў бліжэйшы час. Больш участкі для будаўніцтва ў межах МКАД выдавацца не будуць. Увага будзе нададзена крамам крокавай даступнасці.

**Грэцыя пагражае дэфолтам**

Краіна не зможа выплаціць Міжнароднаму валютнаму фонду чарговы транш памерам 1,6 мільярда еўра. Гэта можа прывесці да дэфолту і рэзкага падзення курса еўра. Агульны доўг Грэцыі складае 400 мільярдаў еўра.

**Ва Узбекістане прыпынілі абмен валют**

Як мінімум да пачатку ліпеня жыхары краіны не змогуць купляць і прадаваць валюту. На чорным рынку даляр перавысіў афіцыйны курс удвая. Галоўная прычына крызісу — рэзкае скарачэнне аб'ёму грашовых пераводаў ад працоўных мігрантаў у Расіі.

**ЯМ**

**Фотафакт**



**Беларускі «Сітраен»**

На заводзе «Юнісон» пад Мінскам сабралі аўтамабілі Citroen. У продаж паступілі кампактвэн Berlingo (каштуе ад 239 мільёнаў рублёў) і седан C-Elysee (ад 149 мільёнаў).

# Курс даляра будзе больш свабодным

Нацбанк адыдзе ад **працэсу таргоў.**

З 1 чэрвеня Нацбанка плануе запусціць новы механізм вызначэння курсаў валют. Гэта адна з рэкамендацый Міжнароднага валютнага фонду. Што зменіцца для пакупнікоў валюты?

Цяперашняя схема прадугледжвае, што банкі і юрыдычныя асобы, якія хочуць купіць ці прадаць валюту, загадзя пакідаюць свае заяўкі з указаннем пажаданага курса. Каля 11:30 на Беларускай валютна-фондавай біржы абвяшчаецца лічба, на якой сышліся попыт і прапанова, і па гэтым курсе ажыццяўляюцца ўсе ўгоды.

Цяпер таргі будуць працягвацца даўжэй, з 11 да 12 гадзіны. Кожны банк выставіць заяўкі аб куплі/продажы валюты і ўбачыць такія ж прапановы ад іншых банкаў. Такім чынам заяўкі будуць канкураваць між сабой. Нехта зможа набыць валюту танней, нехта — даражэй. У Нацбанка больш не будзе функцыі фіксаваць лічбы ў патрэбны момант. Курс будзе вызначацца па выніках гэтых свабодных таргоў.

У першыя дні пераходу на новую схему курсы валют могуць вагацца больш істотна, чым звычайна, аднак Нацбанк гатовы ў такім разе згладжваць ваганні.

**ЯМ**

**Нацбанку раяць пазбавіцца ад банка «Масква-Мінск»**

«Нацбанку варта як мага хутчэй вывесці свае актывы з банка «Масква-Мінск» праз канфлікт інтарэсаў, які ўзнікае пры знаходжанні банка ва ўласнасці ў кантралюючага органа», — гаворыцца ў паведамленні Міжнароднага валютнага фонду. Да таго ж галоўным бухгалтарам у банку працуе жонка старшыні Нацбанка Ларыса Калаўр.

# Андрэй Арлоўскі: беларускі пітбуль

**24 мая ў Лас-Вегасе беларус Андрэй Арлоўскі ў рамках турніру UFC 187 перамог Трэвіса Браўна з ЗША.**

Бой быў сапраўды захапляльным — беларус накаўтаваў амерыканца напрыканцы першага раўнда пасля шалёнага размену ўдарамі ў стойцы. Паядынак быў абраны «найлепшым боем турніру».

Варта адзначыць, што гэта была ўжо трэцяя запар перамога Андрэя па вяртанні ў наймацнейшую ў свеце ММА-арганізацыю, якой з'яўляецца UFC (Ultimate Fighting Championship). Цяпер Арлоўскі з рахункам у 24 перамогі пры 10 паразах падняўся на чацвёртую пазіцыю ў спісе байцоў у цяжкай вазе. Арлоўскаму цяпер 36 гадоў.

Арлоўскі і Браўн — добрыя сябры. Спартоўцы тры гады трэніраваліся разам, а некаторы час Андрэй нават жыў у доме свайго сябра.

Арлоўскі спрабаваў нават папрасіць прабачэння ў Браўна за такі жорсткі бой, на што той адказаў: «Не трэба ніякіх прабачэнняў, ты рабіў сваю працу».

Варта ўзгадаць таксама і яшчэ пра адно сяброўства Арлоўскага: ён быў у вельмі добрых стасунках з хакеістам Русланам Салеем, які загінуў у авіякатастрофе ў 2011 годзе. Яны пазнаёміліся за тры гады да гэтай трагедыі, калі Салей яшчэ гуляў за «Анахайм» у НХЛ, а Арлоўскі рыхтаваўся там да бою. «Пасля пахавання я паабяцаў яго сыну, што ў наступны раз у Лос-Анджэлесе пайду з ім разам на каток. Спецыяльна для гэтага я наняў персанальнага трэнера і тры разы на тыдзень катаўся на каньках. Гэтая трагедыя падштурхнула мяне да заняткаў хакеем». Арлоўскі нават двойчы выходзіў на баі ў хакейных швэдарах з прозвішчам Салея.

Андрэй Арлоўскі — не толькі баец, але і акцёр. Знакаміты спартовец браў удзел у здымках трэцяй і чацвёртай частак фільма «Універсальны салдат», дзе здымаўся разам з Жан-Клодам ван Дамам. «Ван Дам — нармальны, кампанейскі, таварыскі чалавек. Аднойчы Ван Дам спрабаваў мне нейкія ўдары паказваць. Ішлі з ім разам у Балгарыі. Быў сакавік — бруд, снег, золь. І ён стукнуў нагой па маёй дарагой куртцы. Я яму проста сказаў: «Яшчэ раз ўдарыш — адкажу». Проста я вельмі беражліва стаўлюся да сваіх рэчаў».

«Я — пыхлівы і карысьлівы чалавек. Адназначна, — не хавае Арлоўскі. — Не верце тым, хто кажа, што ён б'ецца за тытулы, паясы, граматы і медалі. Я ўсё гэта прайшоў. Усе хочуць зарабляць. Я не выключэнне. Грошай заўсёды мала». Цяпер беларус стаў больш абачлівым у сваім жыцці: «Усё ідзе ў сям'ю. Таго вар'яцтва, якое я сабе мог дазволіць у маладосці, ужо не дапускаю».


Арлоўскі (справа) накаўтаваў Браўна.

Пра сваю сям'ю, дарэчы, Арлоўскі амаль нічога не расказвае. Ён жыве з жонкай і трохгадовым сынам у Чыкага, а трэніруецца ў Альбукерке, што ў штаце Нью-Мехіка. На радзіму ў Бабруйск Арлоўскі прыязджае тры-чатыры разы на год, але ніколі сваіх візітаў не афішуе, таму заспець яго практычна немагчыма. Яшчэ адна важная дэталь яго сямейнага дабрабыту і не толькі — пітбуль Максімус. Паколькі Арлоўскі носіць мянушку Пітбуль, то сабака з'яўляецца яго талісманам — пастаянным спадарожнікам на трэніроўках і разнастайных медыйных акцыях. Андрэй актыўна прасоўвае гэты брэнд, нават на баі выходзіць з капай з ікламі, як у сабакі.

**Зміцер Міцкевіч**

## Вызначаны крымінальныя сталіцы Беларусі

**Найбольшая колькасць злачынстваў фіксуецца на Лагойшчыне, найменшая — вакол Браслава.**

Агулам ва ўсёй краіне летась было зафіксавана 93 932 злачынствы. Гэта найменшая лічба ў параўнанні з папярэднімі гадамі.

Найчасцей здзяйсняліся крадзяжы (43,1%), злачынствы, звязаныя з наркотыкамі (7,8%), і махлярства (4,3%).

Найбольшая колькасць злачынстваў фіксавалася ў Мінску — больш за 20 тысяч, аднак ў пераліку на насельніцтва лічбы не выглядаюць фатальнымі.

Калі ж казаць пра колькасць злачынстваў па раёнах, то ў лідарах наступныя рэгіёны:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Лагойскі | 1597* |
| 2 | Пухавіцкі | 1584 |
| 3 | Глускі | 1563 |
| 4 | Смалявіцкі | 1547 |
| 5 | Шумілінскі | 1543 |
| 6 | Бярэзінскі | 1510 |
| 7 | Крупскі | 1440 |

*тут і далей — колькасць зарэгістраваных злачынстваў на 100 тысяч насельніцтва

У цэлым узровень злачыннасці ва ўсходняй Беларусі вышэйшы, чым у заходняй. Але найвышэйшы ўзровень — у раёнах вакол Мінска, куды, відавочна, выцісkaецца крымінальны і дэкласаваны элемент са сталіцы.

Асобна трэба ўзгадаць ваколіцы Бабруйска. Як і раней, Бабруйскі раён (за выняткам самога райцэнтра) мае высокія паказчыкі злачыннасці. Аднак цяпер мы вырашылі для больш аб'ектыўнай карціны аб'яднаць лічбы горада і раёна.

Самыя бяспечныя раёны выглядаюць наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Браслаўскі | 543 |
| 2 | Жабінкаўскі | 603 |
| 3 | Драгічынскі | 604 |
| 4 | Іванаўскі | 606 |
| 5 | Ляхавіцкі | 632 |
| 6 | Навагрудскі | 643 |
| 7 | Воранаўскі | 652 |

**Ягор Марціновіч**

## Актывіст балгарскай неанацысцкай партыі просіць палітычнага прытулку ў Беларусі

Марыё Пунчаў з крайне правай партыі «Атака» звярнуўся да старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргея Гайдукевіча з просьбай пасадзейнічаць яму ў гэтым.

Зварот балгарскага актывіста на імя Аляксандра Лукашэнкі ЛДП накіравала ў Адміністрацыю прэзідэнта.

У лісце Лукашэнку 52-гадовы Пунчаў піша, што з'яўляецца «адным з заснавальнікаў нацыяналістычнай і патрыятычнай партыі «Атака», цяпер у партыі фінансавыя праблемы і ён застаўся без працы. «Я ўжо дзесяць гадоў абараняю няўдзел Балгарыі ў Еўрасаюзе і НАТО. Я шмат разоў выступаў за прыняцце Балгарыі ў Еўразійскі саюз. Праўрадавы палітычны клас у Балгарыі поўнасцю падначалены Еўрасаюзу і Амерыцы, таму мне кажуць, што не могуць прымаць у дзяржаўныя і прыватныя структуры, бо я з «Атакі». Магу сказаць, гэта татальная дыскрымінацыя. У маёй жонкі закрылі дробны бізнэс... Я не хачу жыць у краіне, у якой дыскрымінуюць іншадумцаў», — напісаў Пунчаў.

Ён адзначыў, што сам і яго жонка сімпатызуюць Беларусі і Лукашэнку. «Мне надакучыла жыць у калоніі ЕС і ЗША. Я і мая сям'я хочам жыць у нармальнай краіне, дзе будуць паважаць нашы погляды, палітычныя і на жыццё... Таму я прашу палітычнага прытулку, паважаны спадар прэзідэнт, для мяне і маёй жонкі ў Рэспубліцы Беларусь, рэспубліцы свабоды», — звярнуўся Пунчаў да Лукашэнкі.

«Атака» — балгарская нацыяналістычная партыя, заснаваная ў 2005 годзе. Сярод патрабаванняў партыі — нацыяналізацыя ўсіх прыватных кампаній, выхад з НАТО і ЕС, прызнанне праваслаўя як афіцыйнай рэлігіі, аднаўленне добрых адносін з Расіяй.

**МБ**

## На мінскіх пляжах з'явіліся схаваныя камеры

**У фотапасткі будуць трапляць тыя, хто ў неналежных месцах выкідае смецце і ездзіць на аўто.**

На шасці мінскіх вадасховішчах усталяваныя фотапасткі, перадае БелТА словы начальніка службы па ўтрыманні гарадскіх лясоў, пляжаў і МКАД Аляксандра Прамінскага.

Камеры будуць сачыць за парадкам на Драздах, Крыніцы, Вячы, Пцічы, Цнянцы і Заслаўскім вадасховішчы.

Каб аўтамабілі не заязджалі на тэрыторыі вадасховішчаў, служба ўсталявала шлагбаўмы і абмежавальныя слупкі. Камеры, якіх сёлета стане ўдвая больш, зафіксуюць парушальнікаў. Таксама камеры будуць наведзеныя на месцы стыхійных сметнікаў.

У гэтым сезоне на мінскіх вадасховішчах таксама ўсталяваныя 11 новых альтанак і 13 комплексаў лясной мэблі, 51 мангал і 75 сметніц, 57 бясплатных біятуалетаў (адзін на Цнянцы — для людзей з абмежаванымі магчымасцямі).

Служба запланавала і забяспечэнне мангалаў на пляжах дровамі — першая партыя будзе завезеная ўжо ў найбліжэйшыя выхадныя.

Дровы плануецца завозіць штотыдзень, але пакуль невядома, ці стане паслуга платнай.

**Аляксандр Арсёнаў**

Працяг тэмы

## Простае сабачае шчасце

Гісторыя з лабрадорам, які быў знойдзены на трасе Брэст—Мінск («НН», №19), мае шчаслівы канец. Людзі, якія ўзялі яго на час, вырашылі пакінуць сабаку сабе. «Ён ужо вымыты і добра пахне. Гэта вельмі сонечны шчанюк, які ўвесь час ходзіць з усмешкай», — расказваюць пра сабаку валанцёры, што яго дагледзалі.

Назвалі лабрадора — Чарлі. Гаспадары з пяшчотай клічуць яго «Праменьчык». Цяпер ён праходзіць лекаванне, але адчувае сябе значна лепш. Нягледзячы на тое, што апетыт яшчэ слабы, з цацкамі гуляецца з вялікай асалодай. Чарлі набірае вагу і спрабуе захапіць канапу. Вось яно — простае сабачае шчасце!



**Вольга Гарапучык**

Жыхары прыватнага сектара з вуліц Чарвякова і Ураджайнай у Мінску чакаюць зносу сваіх дамоў і перасялення ў кватэры амаль 15 гадоў. Забудоўшчык пастаянна пераносіць тэрміны.

# Зносу няма

Марына Лаўрэнцьева жыве на Чарвякова ад сярэдзіны 90-х. Дом франтавіка, бацькі мужа, невялікі: 60 метраў, 4 пакоі. Дом быў пабудаваны яшчэ ў 1949, астатнія, дарэчы, прыкладна тады ж. Ацяпленне — у асноўным газавыя катлы, хаця ёсць і тыя, хто па сённяшні дзень карыстаецца печкай. Водаправода ў многіх дамах таксама няма.

Чуткі пра хуткі знос дамоў хадзілі з канца 80-х. Але, кажа Лаўрэнцьева, забудоўшчыкі то з'яўляліся, то зніклі. На практыцы нічога не рабілася. Апошні забудоўшчык, ТАА «Метадос», заняўся ўчасткам у 2001 годзе. У сувязі з гэтым у дамах забаранілі прапісваць людзей.

«Мы вырашылі прадаць частку дома, але высветлілася, што нельга прапісаць чалавека. Прычым там усё пастаянна змянялася: то можна, то нельга. І нас пра гэтыя забароны і дазволы ніхто не папярэджваў», — кажа Марына.

Два гады праектавання, затым на месцы былой аўтабазы пабудавалі шматпавярховы дом. Затым будоўля дайшла да тэрыторыі, дзе стаялі прыватныя дамы, пра якія ідзе гаворка. Частку іх знеслі і пачалі будоўлю наступнага шматпавярховіка. Людзей рассялілі. А ў тых шасці дамоў, якія засталіся, забралі зямлю пад будоўлю.


Парэшткі хаты на Ураджайнай, якая згарэла ўзімку.

«Нам прынеслі «мутны ліст», як я яго называю. Дакумент ад «Белгіпразема». Там напісана так: скажыце, што вы хочаце за зямлю, але калі не напішаце, то яе і так адбяруць. Хутка прыйшлі, перапісалі зялёныя насаджэнні: дрэвы, кусты. За іх кампенсацыю мы чакаем і па сённяшні дзень. Пра тое, што мы атрымаем замест дамоў — кватэры ці кампенсацыю, — таксама ніхто не гаварыў», — кажа Лаўрэнцьева.

Перыядычна Марына з мужам пісалі лісты ў Мінгарвыканкам і «Метадос», каб даведацца, калі дакладна знясуць іх дамы. «У 2006 пытаем — адказваюць, што знясуць у 2008. Час праходзіць — і нічога. Пішаш ізноў, адказваюць: знясуць у 2011. Чакаеш, пішаш, адказваюць: знясуць у 2013. Потым — у 2015».

Асноўная прэтэнзія ў людзей — няпэўнасць. Ці тыя дамы рамантаваць, укладаючы грошы, ці чакаць зносу? А сярод жыхароў хапае небагатых пенсіянераў. Дый як палепшыць жыллёвыя ўмовы, калі зямля адпісаная пад будаўніцтва, кажа Марына. Людзі нават ваду не могуць сабе правесці, бо для гэтага трэба мець на гэтую зямлю адпаведныя дакументы.


Марына Лаўрэнцьева.

«Каб не гэты знос, даўно б зрабілі з дома камфартабельнае жыллё. А так выходзіць, што ў нас дачны дамок лепш уладкаваны, чым дом, у якім мы жывём, — кажа Марына. — Я лічу, што, якую б кватэру нам ні прапанавалі, адбіраць прыватны дом у цэнтры сталіцы — гэта рабаўніцтва».


Георгій Плашчынскі.

Падвешаны стан выкліканы і супярэчнасцямі ў заканадаўстве. Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама ад 2008 года, «Метадос» павінен быў знесці старыя дамы да пачатку будаўніцтва. А рашэнне ад 2009 года дазваляе забудоўшчыку знасіць дамы і адсяляць людзей да пачатку ўводу шматпавярховіка ў эксплуатацыю — тады, калі яму самому будзе зручна.

Яднацца і пісаць калектыўныя скаргі людзі пачалі пасля таго, як здарылася трагедыя. У пачатку студзеня загарэўся адзін са старых дамоў на вуліцы Ураджайнай. Па адной з версій следства, прычынай мог быць выбух старога газавага катла. У агні загінула пенсіянерка гаспадыня дома.

Жыхары «дамоў пад знос» лічаць, што частка віны ляжыць на «Метадосе», які не адсяліў людзей.

«І што нам рабіць? Шмат у каго стаяць такія ж старыя катлы. Я і сама часам думаю, што прыйду дамоў, а там толькі попел застаўся, — кажа Марына. — Ці добра: мы паставім новы кацёл. А калі загарыцца ў суседзяў, якія не памятаюць? У мінулы раз, каб пажарныя хутка не прыехалі, хто яго ведае, што б было. Мог бы выгарэць увесь гэты раён».

Ад «Метадоса» прыйшла папера з просьбай паведаміць банкаўскія рэквізіты для выплаты кампенсацыі за зялёныя насаджэнні. Але ацэнку праводзілі яшчэ ў 2008 годзе, і потым ніхто не паведамляў, ці пералічвалі іх, ці індэксавалі. Як адзначае адзін з жыхароў, Георгій Плашчынскі, толькі па афіцыйных дадзеных, індэкс цэнаў за гэты час вырас на 400%, а рубель упаў амаль на 700%. Напрыклад, адна з жанчын, якая ўжо памерла, павінна была атрымаць за свае зялёныя насаджэнні амаль 1,5 тысячы даляраў. Сёння сума кампенсацыі (3 312 130 рублёў) — гэта трохі больш за 200 даляраў.

Сам Плашчынскі жыве ў доме нумар 8 на Ураджайнай. Будоўля ідзе адразу за яго плотам.

Плашчынскі ўпэўнены, што зацягванне зносу дамоў выгадна «Метадосу».

«Чым далей людзі жывуць у гэтых дамах, якія немагчыма ўладкаваць, тым больш хочуць з'ехаць, — кажа Георгій. — Да таго ж хапае пенсіянераў, яны проста паміраюць».

У выніку больш за 30 жыхароў з 8 дамоў па вул. Чарвякова і Ураджайнай накіравалі калектыўныя звароты на імя міністра ўнутраных спраў Шуневіча, генеральнага пракурора Канюка, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Анфімава і старшыні Следчага камітэта Шаева з просьбай разгледзець падставы для заведзення крымінальнай справы ў адпаведнасці з КК РБ па артыкулах 424 КК РБ «Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі», 426 КК РБ «Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў», 425 КК РБ «Бяздзейнасць службовай асобы», 428 КК РБ «Службовая халатнасць» і артыкуле 303 КК РБ «Парушэнне правілаў бяспекі горных або будаўнічых работ». Жыхары таксама папрасілі праверыць дзеянні кіраўніцтва ТАА «Метадос» і адказных дзяржаўных органаў і кантралюючых структур па гэтым пытанні на прадмет наяўнасці карупцыйнага складніку. Таксама людзі плануюць звярнуцца ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай правесці антыкарупцыйнае расследаванне.

А 21 мая жыхары былі на прыёме ў адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска. Намесніца кіраўніка адміністрацыі, Жанна Круглікава, паведаміла, што над дакументамі 2008 і 2009 гадоў, якія супярэчаць адзін аднаму, працуе юрыдычная служба. Што тычыцца кампенсацый за насаджэнні, то «Метадос» збіраецца праводзіць новую ацэнку, старая ўжо не актуальная.

Можна паспрабаваць змяніць забудоўшчыка, сказала Круглікава, але тады ўчастак ізноў трапіць на аўкцыён. Пакуль гэта зробіцца, пакуль возьмецца за працу новы забудоўшчык, людзям усё адно прыйдзецца чакаць.

Круглікава паабяцала арганізаваць сустрэчу кіраўніцтва «Метадоса» з жыхарамі ў бліжэйшы час. Ігар Самуйленкаў, дырэктар ТАА «Метадос», заявіў, што да дыялогу з людзьмі гатовы.

«Будзем сустракацца, размаўляць. Дагэтуль мы не знасілі, бо ў адным з дамоў былі праблемы з дакументамі, адзін з прапісаных лічыўся зніклым, — кажа Самуйленкаў. — Увогуле, сёлета мы будзем зносіць толькі тры дамы. У нас ёсць праект, які прайшоў экспертызы, мы згодна з ім дзейнічаем».

Іншым жыхарам Чарвякова-Ураджайнай прыйдзецца пачакаць.

«Іх чарга прыйдзе ў наступным годзе. Адразу не магу, бо яны ж хочуць усе асобныя кватэры. У мяне кватэры вялікай плошчы, па 100—150 метраў. Я прапаноўваў, каб людзі бралі такую на сям'ю, прадавалі і набывалі самі іншае жыллё, яны не хочуць. А калі яны хочуць асобныя кватэры на кожнага, то іх мне трэба шукаць і набываць. Адпаведна, каб іх купіць, мне трэба прадаць кватэры ў сваіх дамах. Але цяпер жа праблемы на рынку нерухомасці», — тлумачыць кіраўнік «Метадоса».

Кватэры ў сваіх дамах яму даваць нявыгадна.

«Не, калі там два чалавекі, а я дам кватэру ў 150 метраў. Ну як гэта? Ёсць нормы, 15—20 метраў на чалавека», — кажа Самуйленкаў.

Але перспектыва змены забудоўшчыка яго не палохае. Ён упэўнены, што гэта нявыгадна ў першую чаргу самім жыхарам: «Няхай мяняюць. Але тады ім будуць даваць кватэры згодна з новымі правіламі, то бок выходзячы з колькасці метраў у іх дамах. А я павінен даваць па колькасці тых, хто прапісаны».

Але жыхары дамоў настроеныя скептычна.

«Я не веру ў дыялог з «Метадосам». Ён пачне нешта рабіць толькі ў адным выпадку: калі яго заканадаўча абавяжуць, — кажа Георгій Плашчынскі. — Інакш нічога не будзе».

**Улад Швядовіч**

# Паліну Шубу назвалі найлепшай тэлевядучай года



А Гігіна ўганаравалі за ток-шоу.

Падведзеныя вынікі штогадовага конкурса «Тэлевяршыня». Яго ладзіць Міністэрства інфармацыі супольна з дзяржаўнымі тэлеканаламі. Адметна, што сёлета цырымонія «Тэлевяршыні» вялася цалкам па-беларуску.

Гран-пры «Тэлевяршыні» атрымаў калектыў Белтэлерадыёкампаніі за асвятленне чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску. Узнагароджваў пераможцаў памочнік прэзідэнта па пытаннях спорту Максім Рыжанкоў.

Звяртаюць на сябе іншыя намінацыі. Так, найлепшай вядучай інфармацыйных перадач стала Паліна Шуба. Вядомасць Паліна Шуба набыла пасля таго, як з'явілася ў кампаніі Аляксандра Лукашэнкі на матчы адкрыцця чэмпіянату свету па хакеі. Цяпер дзяўчына вядзе вечаровую «Панараму» на «Беларусь-1».

Найлепшай передачай грамадска-палітычнай тэматыкі названа ток-шоу «Справа прынцыпу», вядучым якой з'яўляецца галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін. Праграма маніпулятыўная, але варта адзначыць, што Гігін першым на беларускім тэлебачанні стаў клікаць туды прадстаўнікоў незалежнага грамадства.

Найлепшай праграмай для дзяцей названая беларускамоўная «Дабраранак», што выходзіць на тэлеканале «Беларусь-3».

**Зміцер Панкавец**

# Палякі анансавалі гульню пра падлодку «Курск» — расейцы пакрыўдзіліся

У Рунэце кажуць, што рабіць гульні па матывах такіх падзей неэтычна.




Польская студыя Jujubee анансавала відэагульню Kursk, прысвечаную трагедыі расійскай падлодкі. Гульня змяшае жанры экшну ад першай асобы, survival (гульні на выжыванне) і інтэрактыўнага фільма. Трагедыю абяцаюць паказаць «з новага пункту гледжання».

«Аб рэальным лёсе гэтай рускай падлодкі ўсё яшчэ ідуць спрэчкі, і нашай гульнёй мы спадзяёмся задаць некаторыя пытанні і адказаць на іх», — кажа Міхал Стэпень, дырэктар Jujubee.

Пакуль немагчыма ацаніць, наколькі этычным будзе сюжэт гульні. Але ў Расіі Kursk ужо выклікала хвалю абурэння.

Расійская «Камсамольская праўда» лічыць, што трэйлер гульні можа «давесці да бальніцы», галоўны рэдактар IGN Russia назваў распрацоўшчыкаў «прагнымі вылюдкамі», а ў каментарах да трэйлера палякам прапанавалі зрабіць гульню пра выжыванне Леха Качыньскага ў катастрофе пад Смаленскам, пералічвае TJournal.

Выбух на атамнай падлодцы «Курск» адбыўся 12 жніўня 2000 года. Па афіцыйнай версіі, узарвалася вучэбная тарпеда. Уратаваць экіпаж не ўдалося, са дна паднялі целы 115 са 118 падводнікаў. На пытанне вядоўцы CNN Лары Кінга пра тое, што здарылася з падлодкай, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін сцісла адказаў: «Яна патанула».

**Аляксандр Арсёнаў**

# Загінуў матэматык Джон Нэш — правобраз героя «Гульняў розуму»

У Нью-Джэрсі ў аўтамабільнай катастрофе загінуў матэматык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па эканоміцы Джон Нэш. Разам з ім разбілася яго жонка Аліша Нэш.

Яны знаходзіліся ў таксі, якое сутыкнулася з іншай машынай на шашы, а затым урэзалася ў агароджу. Джону Нэшу было 86 гадоў, Алішы Нэш — 82 гады.

Джон Нэш, выпускнік Прынстанскага ўніверсітэта, займаўся тэорыяй гульняў і дыферэнцыяльнай геаметрыяй. У 1994 годзе за працы па тэорыі гульняў ён быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй па эканоміцы.

Нэш працаваў большую частку свайго жыцця, нягледзячы на тое, што ў 1959 годзе ў яго дыягнаставалі паранаідальную шызафрэнію.

У канцы 1990-х гадоў журналістка Сільвія Назар напісала біяграфію Нэша, якая паслужыла асновай для фільма «Гульні розуму» (A Beautiful Mind) рэжысёра Рона Хаварда.

Галоўныя ролі ў карціне сыгралі Расэл Кроў і Джэніфер Конэл. Стужка атрымала шматлікія ўзнагароды, у тым ліку прэмію «Оскар» у намінацыях «Найлепшы фільм» і «Найлепшая рэжысёрская работа».

**АГ**



**Меркаванне**

# Ці можна пераходзіць дарогу на чырвонае святло?

Піша Віталь Цыганкоў.



У Льва Гумілёва (гэта той, які пра пасіянарнасць і этнагенэз) ёсць «трамвайны прыклад». У Ленінградзе ў трамваі едуць чатыры савецкія навуковыя супрацоўнікі аднаго веку, але розных нацыянальнасцяў: рускі, немец, каўказец і татарын. І вось у вагон уваходзіць п'яны, пачынае хаміць і чапляцца да пасажыраў. Рускі пачне п'янага ўгаворваць супакоіцца, немец запатрабуе выклікаць міліцыю, каўказец дасць дэбашыру ў зубы, а татарын не будзе ўмешвацца, нібыта абыякава гледзячы ў акно.

Пакінем убаку спрэчку наконт абсалютнай карэктнасці гэтага прыкладу, але задумаемся, як у такой сітуацыі будзе паводзіць сябе «звычайны» беларус. Лаўлю сябе на думцы, што з кожным годам усё больш беларусаў будуць паводзіць сябе як немец і ўсё менш — як рускі. Але што застаецца нязменным — гэта тое, што большасць беларусаў, як я перакананы, будзе паводзіць сябе як татарын: глядзець у акно і настойліва рабіць выгляд, што гэта іх не тычыцца.

І гэта не толькі чыста тэарэтычныя развазжанні. Прынамсі, у маім жыцці былі тры выпадкі, калі я выкідаў з грамадскага транспарту п'янага хулігана (не таму, што ён быў п'яны — супраць гэтага я нічога не маю, — а таму, што чапляўся да пасажырак), і кожны раз я рабіў гэта пры поўнай абыякавасці астатніх пасажыраў, сярод якіх хапала мужчынаў, мацнейшых за мяне фізічна.

Другі прыклад. Неяк на папулярным беларускім партале абмяркоўвалася наступная сітуацыя: журналіст зняў на відэа, як адзін чалавек біў іншага. Ён выклікаў міліцыю, а сам працягваў здымаць — і ўвесь пафас яго нага допісу быў пра тое, чаму міліцыя гэтак доўга не ехала. Калі нехта з чытачоў запытаўся, а чаму журналіст сам не ўмяшаўся, на яго абрынулася большасць, якая пачала даводзіць, што ўмешвацца нельга, небяспечна і незаконна.

Ну сапраўды, навошта ўмешвацца ў тое, што непасрэдна не тычыцца твайго канкрэтнага жыцця? Бо каб «умешвацца» і «рашаць праблемы» — для гэтага ж існуюць спецыяльна нанятыя людзі. Нездарма ж Беларусь — гэта краіна з найбольшай колькасцю людзей у пагонах, розных сілавых і праваахоўных органаў. А яшчэ ў Беларусі больш, чым дзе, самых разнастайных кантрольных структураў, палова краіны сочыць, каб другая палова не парушала законаў і правілаў. Бо трэба ж, каб быў парадак! Усе гэтыя інструкцыі, якія выпускае кожнае ведамства, каб прымушаць беларусаў «хадзіць строем» — пра тое, што нельга фатаграфаваць аб'екты, нельга прадпрымальнікам браць сваякоў на працу, нельга спяваць у пераходах, нельга пераходзіць пешкі дзяржаўную мяжу — гэта ж не нейкія марсіяне прыдумляюць, не агенты ФСБ і не заўсёды сам Лукашэнка, а звычайныя беларусы, якія працуюць чыноўнікамі. Як сказаў Даўлатаў, «таварыш Сталін, канечне, дыктатар, але хто напісаў 40 мільёнаў даносаў?»

Аднак невытлумачальная павага да любых навязаных «правілаў» уласцівая і многім беларусам з іншага, апазіцыйнага боку. «Мы законапаслухмяныя людзі», — кажуць апазіцыйныя палітыкі і плацяць дзяржаве вялікія грошы за сумнеўны прывілей прайсці праз металашукальнікі на плошчу Бангалор. Не мной заўважана, што Беларусь — адзіная краіна ў свеце, дзе ўдзельнікі масавых дэманстрацыяў пераходзяць дарогу выключна на зялёнае святло.

Дарэчы, пра святлафоры. Неяк у сваім фэйсбуку я напісаў пра тое, як дзіўна назіраць, калі пешаходы позна ўвечары на пустой вуліцы стаяць на чырвонае святло. Паглядзеўшы налева-направа і не заўважыўшы машын, я ў такой сітуацыі заўсёды пераходжу вуліцу пад асуджальныя позіркі астатніх, якія дысцыплінавана чакаюць зялёнага. Слухайце, я даволі часта пішу ў фэйсбуку на самыя вострыя тэмы, але такой хвалі абурэння і нават нянавісці я ніколі ні раней, ні пасля гэтага не сустракаў. Адны пісалі, што я, пераходзячы вуліцу на чырвонае, паставіў сябе тым самым вышэй за іншых людзей, іншыя выказваліся ў стылі «сёння святлафор, а заўтра такі чалавек скрадзе ці заб'е каго». Такое ўражанне, што я закрануў нешта для беларусаў святое і сакральнае, амаль як «чыстыя вуліцы».

У Расіі хоць «строгость законов смягчается необязательностью их исполнения». Але ў Беларусі да любога правіла і да любой інструкцыі ставяцца з максімальнай сур'ёзнасцю — мне ў дыскусіі пра зялёнае святло пісалі, што толькі «выкананне ўсіх існуючых правілаў без выключэнняў прывядзе нас да прававой дзяржавы». У людзей, якія кажуць, што ніколі не парушалі закон, я хачу запытацца: а калі была дэвальвацыя ў 2011-м і даляр каштаваў афіцыйна 5 тысяч, а неафіцыйна — 8 тысяч, вы яго мянялі па афіцыйным курсе? Калі вы мянялі за 8 — то вы парушалі закон, калі за 5 — то вы проста ідыёт.

Я ж не супраць «парадку», проста ён павінен ураўнаважвацца здаровым сэнсам і свабодай. Бо парадак без свабоды і творчасці — гэта казарма, гэта ГДР, дзікае спалучэнне нямецкага «орднунгу» з сацыялізмам. У Вугоршчыне быў мяккі «гуляшовы сацыялізм», у Польшчы была «Салідарнасць» і масавы супраціў уладам, а ў ГДР не было ані мяккасці нораваў, ані супраціву — а толькі «парадак», чыстыя вуліцы і траціна краіны ў агентах Штазі.

Хіба гэта не нагадвае сённяшнюю Беларусь?

svaboda.org

# «Беларускі набат»: новы трэш расійскай прапаганды




Расійскія прапагандысцкія пісьменнікі ў чарговы раз выкарыстоўваюць Беларусь у якасці месца дзеяння сваіх твораў. Кніга Аляксандра Афанасьева пад назвай «Беларускі набат» яшчэ не выйшла, але ўжо паспела стаць прадметам абмеркавання ў сеціве пасля публікацыі вокладкі.

«2020 год... За 6 гадоў, якія прайшлі з моманту дзяржаўнага перавароту ва Украіне, свет не стаў больш бяспечным. Развязаная ўкраінскімі нацыяналістамі пад патранажам заходніх спецслужбаў грамадзянская вайна пагражае выліцца на тэрыторыю Расіі. Ажывілася і сусветнае тэрарыстычнае падполле з марамі ўзяць рэванш за страту Каўказа.

Сілавыя ведамствы нашай краіны рыхтуюць беспрэцэдэнтныя меры па барацьбе з «бандэраўскімі» дыверсантамі і міжнародным тэрарызмам. Але вораг збіраецца нанесці ўдар адкуль не чакалі. На гэты раз пад пагрозай апынулася братэрская Беларусь. Сутычка Віктара Сіткова — супрацоўніка часовай зводнай аператыўнай групы — з падступным усюдыісным ворагам працягваецца...»

Публікацыя кнігі павінна адбыцца сёлета, яна ўжо анансаваная на некаторых расійскіх кніжных парталах. Дадзенае выданне з'яўляецца часткай расійскай серыі «Враг у ворот». Сярод твораў гэтай серыі прысутнічаюць кнігі з назвамі «Медаль за город Вашингтон», «Прощай, Америка!», «Бей врага в его логове! Русский десант в Америку», «Гнев Новороссии» і г.д. Пра характар дадзеных твораў можаце меркаваць самі.

**Зміцер Міцкевіч**



## Апостальскі нунцый наведаў каталічку, што жыве адна ў лясной вёсцы

Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці наведаў вёску Масцішчы — амаль зніклы населены пункт, які налічвае ўсяго дзве хаты і стараверскую царкву, што была пабудавана ў 1925 годзе. Адна з жыхарак — стараверка, а другая — каталічка.

Апостальскі нунцый завітаў да васьмідзесяцігадовай спадарыні Жукоўскай і дабраславіў яе. Жанчына, якая жыве сярод беларускіх лясоў, з адзінаю суседкаю, была рада візіту такіх гасцей.

**Catholic.by**



## Дылер Mitsubishi пераходзіць на аўто расійскай зборкі і расійскія цэны — беларускія занадта высокія

Беларускі дылер Mitsubishi кампанія «Рэдмотарс» з лета пераходзіць на продаж аўтамабіляў расійскай зборкі. Плануецца, што аўтамабілі, сабраныя на расійскіх заводах, паступяць у продаж ужо ў чэрвені. Пра гэта паведаміў дырэктар ТАА «Рэдмотарс» Вадзім Швайч на прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця новага аўтацэнтра Mitsubishi ў Мінску.

Беларускі аўтацэнтр Mitsubishi прадае аўтамабілі японска-тайванскай зборкі, аднак дэвальвацыя расійскага рубля зрабіла беларускія цэны неканкурэнтаздольнымі. За першы квартал 2015 года «Рэдмотарс» прадала ўсяго 15 аўтамабіляў, бо тыя прадаваліся па цэнах мінулага года.

Таму кампанія была вымушана змяніць пастаўніка аўтамабіляў і прывязаць цэны да расійскіх, каб у валютным эквіваленце Mitsubishi ў Мінску і Маскве каштавалі аднолькава. Каб прыцягнуць патэнцыйных пакупнікоў, «Рэдмотарс» нават распачала рэкламную акцыю «Маскоўскія цэны на мінскай кальцавой»: маўляў, цяпер няма неабходнасці ехаць у Расію па аўто, бо яго можна купіць у Мінску па ідэнтычнай цане.

Летась аўтамабілі маркі Mitsubishi склалі 2,5% беларускага рынку новых легкавікоў. У гэтым годзе кампанія плануе ахапіць 3% рынку. Усяго ў мінулым годзе беларусы купілі 50 тысячаў новых легкавікоў. Палову гэтай колькасці склаў «шэры» імпарт — машыны масава куплялі ў Расіі праз рэзкі абвал курсу расійскага рубля.

Новы аўтацэнтр Mitsubishi месціцца па адрасе: Шчамысліцкі сельсавет, 32/1 (раён вёскі Дварыцкая Слабада, 28-ы кіламетр вонкавага кола МКАД). Плошча аўтацэнтра — больш за 5 тысячаў квадратных метраў. Ён падзелены на дзве вялікія зоны: шоўрум на 18 аўтамабіляў і сервісны цэнтр.

**Кірыла Хілько**

## У Вільні адкрылі помнік Джону Ленану



21 мая у літоўскай сталіцы, падчас урачыстага адкрыцця новага сквера, быў адкрыты і помнік легендарнаму музыку, удзельніку The Beatles Джону Ленану. У цырымоніі адкрыцця браў удзел і новы мэр Вільні Рэмігіюс Шымашус.

Падчас урачыстасці дзейнічала пошта Джона Ленана. У выставачнай зале жылога квартала Oslo namai была адкрыта выстава Lennon forever.

Прысвечаны Ленану сучасны бюст з бронзы і каменю вышынёй больш за два метры быў адкрыты ў новым квартале шматкватэрных дамоў на вул. Міндоўга ў літоўскай сталіцы.

**АГ**

Кіно

## Будучыня вачыма Disney

Зямля будучыні
**Жанр:** фантастыка, прыгоды, баявік
**Рэжысёр:** Брэд Бёрд
**У ролях:** Джордж Клуні, Брыт Робертсан, Х'ю Лоры, Рэфі Кэсідзі, Цім МакГроў, Кэтрын Хан, Кігэн-Майкл Лі, Крыстафер Баўэр
ЗША, 130 хв
**Адзнака:** 8




У рукі маладой дзяўчыны трапляе загадкавы прадмет, які адкрывае доступ у паралельную рэальнасць — Зямлю будучыні, у якой рэалізаваныя найноўшыя тэхналагічныя магчымасці. Але час знаходжання там абмежаваны, і Кейсі вырашае даведацца, як туды трапіць зноў. Дзяўчына вымушана звярнуцца па дапамогу да генія-вынаходніка Фрэнка Уолкера, але спачатку трэба пераканаць былога вундэркінда раскрыць ёй таямніцу загадкавага месца, вядома як Зямля будучыні, і прымусіць Фрэнка вярнуцца туды, адкуль яго адной чы выгналі.

У 1955 Уолт Дысней пашырыў свой парк забаў Disneyland, назваўшы новы ўчастак «Зямля будучыні». У той час уяўленне малявала жыхарам Зямлі вельмі аптымістычную будучыню, аднак паступова яна зрабілася змрочнай і безрадаснай. Гэты працэс зацікавіў сцэнарыста і прадзюсара Дэймана Ліндэлофа. Аднойчы ён даведаўся, што ў архівах Disney Studios знайшлі незвычайную скрынку. У ёй былі мадэлі і чарцяжы, фатаграфіі і запісы, так ці інакш звязаныя з будаўніцтвам «Зямлі будучыні» і Сусветным кірмашом 1964-га. Ліндэлоф вырашыў, што можа існаваць нейкае рэальнае месца з назвай «Зямля будучыні». Гэтая ідэя стала асновай для сюжэта апавядання, якое Ліндэлоф пасля перапрацаваў у сцэнар разам з рэжысёрам і прадзюсарам Брэдам Бёрдам.

Прататыпам для Зямлі будучыні стаў іспанскі Горад навукі і мастацтва ў Валенсіі. Палі пшаніцы вакол горада і палі кукурузы каля фермы Фрэнка былі спецыяльна вырашчаныя ў канадскіх правінцыях. Таксама здымкі праходзілі ў Парыжы і Каліфорніі. Агулам было задзейнічана больш за 90 спалучэнняў розных натурных і павільённых пляцовак. Здымачнай групе давялося пераязджаць 10 разоў.

Стужка сабрала зорную каманду акцёраў. «Ты можаш здзейсніць сваю мару і зрабіць будучыню ярчэйшай», — упэўненая выканаўца галоўнай ролі Брыт Робертсан. Праз з'яўленне яе персанажа ў рэчаіснасці зямлян могуць адбыцца пазітыўныя змены ў будучыні. «Мы, людзі, заўжды перажывалі ўзлёты і падзенні. Я ўпэўнены, нас чакаюць светлыя часы», — аптымістычна заявіў Джорж Клуні, выканаўца ролі Фрэнка. На вялікім экране з'явіўся і харызматычны акцёр і музыка Х'ю Лоры, які выканаў ролю злодзея.

Фільм пакідае ўражанне добрай футурыстычнай казкі. Сюжэт дынамічны і жывы, прысутнічаюць адсылкі да класікі літаратурнай і кінематаграфічнай фантастыкі. Праз гэта стужка можа здацца трохі другаснай, але кампіляцыя ідэй ўдалася.

**Настасся Уласава**

# Смалявічы — квартал у чыстым полі



Горад-спадарожнік Мінска — Смалявічы.

У сакавіку 2015 года Камітэт архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама зацвердзіў канцэпцыю развіцця горадоў-спадарожнікаў Мінска. Згодна з ёй, а таксама з пажаданнямі Аляксандра Лукашэнкі аб спыненні інтэнсіўнай забудовы беларускай сталіцы, да 2030 года больш за 120 тысяч жыхароў Мінска мусяць засяліць 6 горадоў-спадарожнікаў. Для перспектыўнага развіцця абраныя Смалявічы, Лагойск, Фаніпаль, Дзяржынск, Рудзенск і Заслаўе.

Смалявічы ў праграму гарадоў-спадарожнікаў унесеныя ў 2010 годзе. Перспектыўнае развіццё гэтага райцэнтра плануецца сумесна з Кітайска-беларускім індустрыяльным паркам. Распрацоўка генплана парка прайшла пад знакам пратэстаў жыхароў раёна, у якіх пад парк мусілі забраць зямельныя надзелы. Але ад самых Смалявічаў кітайска-беларускі праект размешчаны за дзесятак кіламетраў і ніяк не ўплывае на сталую забудову райцэнтра.

### Без машыны — ніяк

Транспартнае размяшчэнне Смалявічаў мае свае выгоды — з двух бакоў горад атачаюць дзве рэспубліканскія шашы, паміж якімі праходзіць яшчэ і чыгунка. У прынцыпе, развіццё Смалявічаў як горада і пачалося пасля закладкі чыгуначных вузлоў. Даезд да Мінска чыгункай займае каля гадзіны — для прыгарада Мінска гэта не так і мала. Маршруткі ў Мінск даязджаюць за паўгадзіны. Аўтобусных маршрутаў у Смалявічах усяго чатыры, а інтэрвал руху — каля гадзіны. Таму жыццё без машыны тут няпростае. Каб дабірацца пехатой да школы, садка ці бальніцы мясцовым жыхарам трэба нямала часу — ад паўгадзіны да гадзіны. Сучасны чыгуначны вакзал месціцца на ўскрайку горада, а другая станцыя і асноўная для Смалявічаў, Зарэчнае, больш нагадвае прыпыначны пункт для дачнікаў.

### Старыя Смалявічы

Чыгунка ўмоўна дзеліць Смалявічы на паўночную і паўднёвую часткі. У паўночнай частцы — адміністрацыйны цэнтр, шматпавярховая і прыватная забудова, у паўднёвай — пераважна прыватная забудова і прамысловая зона. На плошчы Незалежнасці размешчаны райвыканкам з помнікам Леніну. Старая забудова Смалявічаў — тыповы райцэнтр з шырокай, пераважна драўлянай, прыватнай забудовай, паміж якой размешчаны асноўныя будынкі інфраструктуры. Нягледзячы на гэта, якасць дарог тут не выклікае пытанняў. Гарадская інфраструктура не вельмі развітая і раскінутая паміж прыватнымі сектарамі. З турыстычных цікавостак у Смалявічах часткова прыцягльная драўляная забудова, помнік Святому Валянціну ля аднайменнага касцёла і турыстычны патэнцыял двух вадасховішчаў побач з горадам.



Смалявіцкае вадасховішча.

**Смалявічы**

Першая згадка — 1448 год

Насельніцтва — 15,3 тыс. чалавек (2011)

Планаваная колькасць жыхароў у 2030 годзе — да 30 тыс.

Ад Мінска — 45 км

### Квартал для менчукоў і новыя Смалявічы

Квартал пад забудову дамоў для менчукоў выдзелены на ўскрайку Смалявічаў, побач з маляўнічым вадасховішчам і трасай Р53, якая вядзе ў Мінск. Ад цэнтра горада да «мінскага квартала» ідуць дзве паралельныя вуліцы — Сацыялістычная і Камсамольская. Будаўніцтва квартала пачалося ў чыстым полі. На дадзены момант цалкам здадзены адзін яшчэ не заселены дом, а другі толькі ўзводзіцца. На будаўнічай пляцоўцы — толькі адзін кран. Побач з будаўніцтвам месціцца новыя спальныя раёны і «элітны» для Смалявічаў прыватны сектар.

Асноўная праблема для гэтага раёна новых Смалявічаў і «квартала для менчукоў» — адсутнасць камунікацый і інфраструктуры. Да найбліжэйшай школы адсюль — 40 хвілін пехатой, да паліклінікі — паўгадзіны. З усіх выгодаў — толькі нядаўна пабудаваны дзіцячы садок і прадуктовая крама. Кошты на кватэры ў новым доме: двухпакаёўка (58 кв. м.) — 32,5 тыс. даляраў, трохпакаёўка (81 кв. м.) — 45,7 тысячы.



План «квартала для менчукоў» (белым колерам пазначаны пабудаваны дом).



Цэнтральная плошча Смалявічаў — Незалежнасці.

### Чыгунка паралізуе рух

Вялікай праблемай для Смалявічаў з'яўляецца, як ні дзіўна, чыгунка. Горад мае толькі адзін пераезд, а чыгуначная магістраль дзеліць горад на дзве часткі. На час праходу цягнікоў аўтамабільны і транспартны рух з адной у другую частку горада паралізуецца на дзесяць-пятнаццаць хвілін. Здараецца, што пажарныя ці хуткая дапамога спазняюцца па выкліках — бальніца і пажарная частка месціцца ў розных канцах горада. Грамадскасць Смалявічаў ужо дзесятак год дамагаецца будаўніцтва моста над чыгункай, каб вырашыць гэтую праблему.

Мясцовыя жыхары на пытанне пра развіццё Смалявічаў як горада-спадарожніка рэагуюць па-рознаму. Нехта бачыць у гэтым негатыў — нявырашаныя транспартныя і інфраструктурныя праблемы з павелічэннем колькасці жыхароў толькі ўскладняцца. А нехта радуецца таму, што горад будзе расці і паступова змяняцца ў лепшы бок, бо з ростам насельніцтва з'явяцца новыя працоўныя месцы, а інфраструктура горада пры гэтым будзе толькі развівацца.

Калі падсумоўваць канцэпцыю развіцця Смалявічаў як горада-спадарожніка, то варта адзначыць, што гэта мае вялікі патэнцыял да развіцця сумежных з Мінскам гарадскіх прастораў. Больш за 20% насельніцтва Беларусі пражывае ў Мінску, і такі паказчык характэрны для слабаразвітых эканомік. У той жа час сумежныя са сталіцай рэгіёны адчуваюць вялікі недахоп інвестыцый для развіцця сваёй інфраструктуры і мясцовай эканомікі. Увогуле, развіццё горадоў-спадарожнікаў, якія ўтвараюць з метраполіяй (у нашым выпадку гэта Мінск) агламерацыю, — тэндэнцыя для развітых капіталістычных эканомік. Калі заможны сярэдні клас паступова пераязджае з перанасычанай сталіцы ў прыгарады. Але ці пажадаюць менчукі перабірацца на сталае месцажыхарства хоць і ў новыя мікрараёны, але ў не развіты горад-райцэнтр са слабой інфраструктурай і транспартнымі праблемамі — вялікае пытанне і выклік для распрацоўшчыкаў канцэпцыі горадоў-спадарожнікаў.



Тыповы краявід райцэнтра Смалявічаў.

Сяргей Гудзілін, фота аўтара

# «Прашу мяне расстраляць!»

Маці судзяць **за забойства 3-гадовага сына.**

Трагічнае здарэнне адбылося 28 студзеня на сталічнай вуліцы Адзінцова. Увечары суседзі ўбачылі цельца 3-гадовага хлопчыка на казырку пад'езда. Калі з'явілася яго маці, выклікалі міліцыю — жанчына была нападпітку. 34-гадовую Іну тады і затрымалі. Яна ва ўсім прызналася. Хлопчык сканаў у бальніцы ў той жа вечар.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Цяжкая матэрыяльная гісторыя

«Сын Уладзік нарадзіўся 8 верасня 2011. Быў жаданым», — расказвае на судзе Іна Зубовіч. Праўда, ужо праз шэсць дзён пасля нараджэння, калі пайшла рэгістраваць дзіця, бацькам запісала іншага чалавека. Аляксандр, сапраўдны бацька, выпіваў, меў некалькі судзімасцяў. На момант родаў Іна вырашыла, што не хоча з ім звязваць жыццё. «Калі сыну быў 1 месяц, я папрасіла яго сысці».

Аляксандр не падтрымліваў сям'ю матэрыяльна. «Ён хутчэй задушыцца, чым дапаможа. Нармальны мужчына сам бы дапамагаў, а не лынды біў, — ледзь чутна расказвае пра сваё жыццё жанчына. — У мяне цяжкая матэрыяльная гісторыя. Дзіця пастаянна хварэла, я не магла працаваць. І ўтрыманне было на маёй маме. Таму былі сваркі: ёй было цяжка».

На нараджэнне дзіцяці Іна пазычыла ў сяброўкі 4,5 мільёна рублёў: купіла калыску, каляску. Дамовіліся, што аддасць пазней, але далярамі. Тады гэта было $1000. Пазычалі разам з Аляксандрам — абяцаў падтрымліваць. А пасля адмовіўся.

За тры гады жанчына так і не змагла аддаць пазыку. У маі 2014 яна ўладкавалася памочніцай выхавацелькі ў дзіцячы садок. У верасні бухгалтар ёй памылкова налічыла лішнія 2,6 мільёна. Іна іх пусціла на сына. Калі на працы спахапіліся, вырашылі гэтую суму па частках вылічваць з яе заробку. І ні ў снежні, ні ў студзені «на рукі нічога не атрымала. Я разумела, што не магу разлічыцца з пазыкай. Былі канфлікты з мамай. Думала, яны будуць толькі ўзмацняцца. І палічыла адзіным выйсцем — скончыць з сабой і дзіцем. Разумела, што бабуля належнай увагі сыну не акажа, а ў дзетдоме ён таксама не выжыве».

### «Цвярозая я б ніколі гэта не зрабіла»

У той дзень, 28 студзеня, Іна «купіла два літровыя пакеты віна «Старая келля», слабаалкагольны напой малому — таксама літр. Каб набрацца смеласці — цвярозая я б ніколі гэта не зрабіла».

Прыгатавала паесці. Сама выпівала віно. Праўда, калі адыходзіла, сын таксама цягнуў з яе келіха. У крыві хлопчыка медыкі знайшлі 1,9 праміле алкаголю.

Хлопчыку стала кепска ад віна, і яго званітавала. Ён сядзеў побач з маці. Засынаў. Тады Іна апранула яго ў зімовыя рэчы і на руках панесла да ліфта. Са свайго 4 паверха падняліся на 12-ты. Меркавала, што калі скінуцца хаця б з 8-га, то могуць застацца калекамі. Хацела, каб усё здарылася напэўна.

«Падняліся на 12-ты паверх на агульны балкон. Сын спаў. Там была высокая агароджа — па грудзі. Я паспрабавала пераваліцца разам з ім, але не атрымалася. Я прыўзняла дзіця, тварам да сябе, і скінула. Не глядзела, як ён ляцеў. Я тады пачала крычаць і выклікаць хуткую. Паведаміла, што дзіця звалілася на казырок пад'езда». Жанчына ўсвядоміла, што сын можа застацца жывым, таму і выклікала медыкаў. Чаму сама не выкінулася? "Не ведаю», — адказвае яна.

На казырку, на другім паверсе, ужо былі суседзі. Яны выклікалі міліцыю. Тады Іну і затрымалі. «Сын ляжаў на баку».

Яшчэ да таго, як пачаць піць, напісала запіску маці. Маўляў, з жыцця сыходзіць па сваім жаданні, з сабой забірае сына. Не можа больш сядзець у яе на шыі.

### Спрабавала атруціцца

На судзе высветлілася, што жанчына двойчы спрабавала атруціцца лекамі: у 2001 і 2008. «Праз сямейныя праблемы. Не хачу пра гэта гаварыць».

Выпадак з Інай можна было б назваць вялікай трагедыяй: праблемы загналі жанчыну ў кут. Але выявілася, што яна сама і стварыла ўмовы для такой сітуацыі: не ўладкавалася ў жыцці. «Працей сказаць, у якія гады я працавала», — расказала яна на судзе. Больш жыла на грошы маці.

Карціну праясніла маці жанчыны. «Яна мне ўсё жыццё лгала, выкручвалася, брала пазыкі», — заявіла Марыя Зубовіч. Улазіла нават у крэдыты, каб купіць падарункі свайму каханаму. А калі прыходзіў час аддаваць грошы, пагражала, што скончыць з сабой ад безвыходнасці. «Думаю, ёй проста не хацелася працаваць. Ёй проста было выгадна сядзець дома». А Марыя сама забяспечвала ўнука.

Высветлілася таксама, што некалькі гадоў таму з акна суседняга дома па Адзінцова вывалілася з акна і забілася малодшая сястра Іны.

«На сёння я хачу скончыць з сабой. Прашу суд прызначыць мне смяротнае пакаранне. Рана ці позна я ўсё роўна скончу з сабой», — выпаліла Іна. Але жанчын у Беларусі не расстрэльваюць, максімальна магчымае пакаранне — 25 гадоў зняволення.

**Сяргей Макарэвіч**

# Забіў і з'ехаў

Пад Мінскам **падрэзанае «Рэно» сутыкнулася з «Опелем».**

Следчы камітэт шукае сведкаў аварыі, якая адбылася 22 мая каля 16.25 на скрыжаванні Слуцкай шашы з трасай М1. 53-гадовая кіроўца «Рэно Меган Сцэнік» выехала на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з «Опелем». 48-гадовая пасажырка «Рэно», сястра кіроўцы, загінула на месцы. Родныя пацярпелых пераконваюць, што аварыя адбылася па віне трэцяга кіроўцы.

«Загінула мая цётка, — расказала Onliner.by Кацярына, чыя маці знаходзілася за рулём «Рэно». — Са слоў мамы, яна рухалася ў бок Слуцка ў крайнім левым шэрагу. Кажа, што ззаду ехала вялікая сіняя машына, міргнула фарамі, каб яе прапусцілі. Пасля пачала апярэджваць справа і падрэзала, стукнуўшы ў правае крыло. Тады іх і выкінула на сустрэчную паласу. Далей мама мала што памятае. Я прашу адгукнуцца відавочцаў, сведак. Можа, у кагосьці ёсць відэа».

**Кастусь Матушыч**

Калі вы былі сведкам аварыі, звяртайцеся ў Следчы камітэт на: (017) 267-45-27, (029) 359-17-05.



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Віцебскага студэнта забіў сябар за неаплачаны рахунак

**П'яная выхадка** каштавала жыцця.

Раніцай 22 снежня 2014 у інтэрнаце нежывым знайшлі 24-гадовага студэнта Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны. Смерць наступіла ад пабояў. Па падазрэнні тады затрымалі 21-гадовага суседа, студэнта той жа ВНУ. Хлопцы жылі ў адным пакоі інтэрната. Узнікла сварка, падчас якой малодшы да смерці рукамі і нагамі збіў старэйшага. Перад гэтым разам выпівалі.

Цяпер у Следчым камітэце агучылі падрабязнасці справы. Хлопцы разам адправіліся адпачываць у той вечар. Гулялі да раніцы.

«Перад закрыццём забаўляльнай установы адзін са студэнтаў вярнуўся ў інтэрнат. Другі праз адсутнасць грошай не змог аплаціць рахунак, у сувязі з чым пакінуў заклад — свой мабільнік», — расказала прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова. Але хлопец быў пакрыўджаны ўчынкам суседа і ў інтэрнаце пачаў яму выказваць свае прэтэнзіі. Калі словы скончыліся, у ход пайшлі кулакі.



САЦЫЯЛЬНЫЯ СЕТКІ

24-гадовы Юрый (**на фота**), якога знайшлі забітым, навучаўся на 3 курсе. Паходзіў з Пінска, дзе скончыў перад гэтым аграрнатэхнічны каледж па спецыяльнасці «заатэхнія». Хлопец быў адзіным дзіцём у сям'і, расказала яго знаёмая. Бацькі развяліся і не жылі разам, і цяпер маці засталася зусім адна. Дзяўчына называе яго жыццярадасным чалавекам, якога можна назваць «душой кампаніі». Кампанія яго і згубіла.

Крымінальная справа заведзена за забойства. Падазраваны знаходзіцца ў ізалятары. Яму пагражае ад 6 да 15 гадоў калоніі.

**СМ**

## Сцісла

### Не падзялілі грошы

У лістападзе ў Мінску разам з машынай і буйной сумай грошай знік 24-гадовы студэнт. Яго «Фальксваген» знайшлі ў сталіцы са слядамі крыві ў салоне. Па падазрэнні затрымалі прыяцеляў зніклага, 30 і 35 гадоў. Адзін з іх быў кампаньёнам хлопца па продажы патрманых аўто. Выявілася, што яны не падзялілі грошы ад свайго бізнэсу. Пасварыліся. І студэнт атрымаў нажом у сэрца. Забойца разам з прыяцелем вывезлі труп у Глыбоцкі раён, дзе закапалі на беразе возера. Аднаго вінавацяць у забойстве і крадзяжы аўто, другога — крадзяжы машыны і ўкрывальніцтве злачынцы.

### МАЗ пратараніў 8 легкавікоў

Аварыя адбылася 22 мая на сталічнай вуліцы Інтэрнацыянальная. Кіроўца прыпаркаваў МАЗ: паставіў на «ручнік», але рухавік пакінуў уключаным. У выніку грузавік пакаціўся і пратараніў восем легкавікоў: «Рэндж Ровер», «БМВ», «Аўдзі», «Нісан», «Мерседэс», «Опель» і два «Вольва».



TUT.BY

### Не падбірай казулі

У мінулым годзе ў Крымінальны кодэкс уведзена новая норма, якая забараняе падбіраць мёртвых дзікіх жывёл і разбіраць іх. Знайшліся тыя, хто ўжо пацярпеў ад новаўвядзення.

У студзені 2015 жыхар Гродна загрузіў мёртвую казулю ў машыну і павёз дамоў, дзе меркаваў разабраць. Але па дарозе яго спынілі.

Завялі крымінальную справу. Падчас следства гарадзенец выплаціў 21,6 мільёна рублёў кампенсацыі. І яшчэ па рашэнні суда — 45 мільёнаў. У яго таксама канфіскавалі машыну, на якой перавозіў жывёліну.

**КМ**

# Зміцер Дашкевіч: Тое, што адбываецца ва Украіне, — гэта апошні цвік у Расійскую імперыю

Лідар «Маладога Фронту» даў бескампраміснае інтэрв'ю.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**— Ты цяпер мэбляй займаешся. Прыбытковая справа?**

— Калі працаваць, любая справа прыбытковая. Тысячу-паўтары я зарабляю. Але гэта такая праца, што, бывае, па 16 гадзін у дзень заняты. А 8 раніцы я на аб'екце, гадзін у 9 вечара бываю дома, пасля яшчэ сяджу пару гадзін — малюю макеты. Гэта не так, што ты прыйшоў, адпінаў 8 гадзін, а потым думаеш, чаму ў цябе 300 ці 500 даляраў выходзіць за месяц. У людзей цяпер такая культура працы, што пры любой уладзе ім будзе дрэнна. Калі чалавек сваёй скурай не адказны за тое, што робіць (то бок пакуль у дзяржаве не будзе прыватнай уласнасці амаль на ўсё — зямлю, заводы), ён і будзе жыць па прынцыпе «не скрадзеш — не пражывеш».

**— Табе падабаецца тое, што ты робіш?**

— Я займаюся стваральнай працай. Прыйшоў, на роўным месцы нешта зрабіў. Прыгожа, радасна. А наколькі гэта мае прызначэнне на вякі — хто ведае?

**— Якая праца табе падабаецца больш: фізічная ці інтэлектуальная?**

— Я за грошы ў інтэлектуальнай сферы амаль не працаваў. Ну, тэксты бывае пішу на «Хартыю», на «Нашу Ніву». Гэта хутчэй падтрымка дадатковая. Вельмі цяжкая праца. Напрыклад, што тычыцца апавяданняў, што я пісаў у турме, — трэба было сур'ёзна сябе прымушаць. З дошкамі прасцей: узяў, пілуеш, яно ідзе. А тут ты можаш прасядзець пару гадзін, а з цябе нічога.

**— З 16 гадзінамі працы ў цябе час застаецца з дачкой пазаймацца?**

— У мяне і выходныя бываюць. Калі мне не вельмі рана трэба на працу, я заўсёды забіраю Мару ад жонкі, каб яна магла паспаць, бо ёй трэба значна больш прысвячаць сябе Мары. І баўлюся з дачкой тады.

**— Які ты бацька?**

— Куды тут строгім быць з гэтым камочкам? Але ад яе спасу няма ўжо ў 9 месяцаў. На ногі стала, дык ад яе цяпер не адысці. Нядаўна сеў за камп'ютар, чую — нешта яна заціхла секунд на 60. Азіраюся, а яна зямлю з вазона есць!

## Падзеі ва Украіне — святло ў канцы тунэля

**— Як табе ўдаецца сумяшчаць працу, сям'ю і грамадскую актыўнасць?**

— Тытанічных грамадскіх кампаній я на сабе не цягну. У мінімальнай ступені я заангажаваны ў працу «Маладога Фронту», дзе мы збіраемся, нешта абмяркоўваем. Мы імкнемся быць на сувязі, збірацца. Бо глабальныя змены непазбежныя. Я гляджу на гісторыю як на Божы план для кожнага чалавека і народа. Тое, што адбываецца ва Украіне, — сур'ёзнае Божае дзеянне на кантыненце. Гэта апошні цвік у Расійскую імперыю. І Беларусь тут не можа быць па-за працэсам. Некалькі месяцаў пройдзе ці некалькі год, але адбудуцца вялікія зрухі. І важна быць напагатове, каб не прапусціць гэтую хвалю.

Доўгі час мы раскідалі камяні, займаліся шапказакідальніцтвам: «Заўтра мы пераможам!», «Давайце тут надарвемся!», «Трэба ісці на акцыю!» Людзей выганялі з навучальных устаноў, выклікалі бацькоў — людзі адвальваліся ад руху пачкамі! Цяпер прыйшоў час камяні збіраць.

Каб атрымаць уладу, павінен быць нейкі вельмі сур'ёзны палітычны лідар, за якім стаіць сур'ёзная сіла. Яшчэ больш харызматычны і мэтаскіраваны, чым Лукашэнка. І гэтая сіла магла б захаваць Беларусь і адказваць на выклікі.

**— Святло ў канцы тунэля бачна?**

— Для мяне святло ў канцы тунэля — гэта падзеі ва Украіне. Многія, гледзячы на Украіну, пачалі заклікаць да аб'яднання з уладай. Акей, яны маглі б аб'ядноўвацца, калі б яны сапраўды рабілі ўсё, што ад іх залежыць, каб захаваць незалежнасць і каб сюды не прыйшла Расія. Але я іх запытваю: «А вы на якой мове размаўляеце?» Людзі не могуць элементарна перайсці на беларускую мову. Пуцін прыйшоў рабаваць Украіну, прыкрываючыся інтарэсамі рускамоўных. Размаўляйце па-беларуску, калі вы не хочаце бачыць тут Пуціна! А яны — давайце з уладамі аб'яднаемся. Няверны ў малым — няверны ва ўсім — ёсць такая біблійная ісціна.

Супраць Лукашэнкі, больш чым ён сам, ніхто не зробіць у гэтай краіне. Так дыскрэдытаваць сябе, сваю сацыяльна-арыентаваную палітыку. І каб апазіцыя была маральным аўтарытэтам — уладу б узялі хоць сёння. Але нават людзі, якія супраць улады, задаюць пытанне: «А каму яе аддаць? Гэтым швондзерам?» Канечне, не 100% швондзеры. Ёсць шмат прыстойных людзей, такіх, як Севярынец, Статкевіч, яшчэ некаторыя персаналіі.

## Караткевіч і Анісім не час балатавацца

**— І што рабіць?**

— Па-нармальнаму, усім гэтым партыям трэ' было самараспусціцца. Засталося б з усёй апазіцыі актыўных 100—200 чалавек. А так — 10 тысяч партыйных актывістаў плюс 50 арганізацый паўтара года збіраюць 50 тысяч подпісаў.

У нас у «Маладым Фронце» таксама неяк была кампанія па зборы подпісаў за беларускую мову. Кампанія правальная, бо я ж таксама быў шапказакідальнікам — замахнуўся на 50 тысяч подпісаў. Я падумаў: нас 50 чалавек — кожны па тысячы. Па выніку я сабраў пяць тысяч, яшчэ некалькі чалавек па пару тысяч, а больш ніхто нічога не сабраў. Я за месяц сабраў тры тысячы, кожны дзень аддаючы гэтаму тры гадзіны. А яны на сваіх мільённых бюджэтах паўтара года 50 тысяч збіраюць і даказваюць нам, што гэта дасягненне! І цяпер кажуць: давайце на выбары пойдзем! Мо яны таму і вылучаюць жанчын, каб было цяжэй крытыкаваць. Ну не час зараз для Таццяны Караткевіч ці Алены Анісім балатавацца — гэта проста цырк! Пры ўсёй павазе да гэтых людзей.

## Каб не 95-ы, я б у апазіцыю не пайшоў

**— Што будзеш рабіць, калі заўтра суверэнітэт Беларусі ліквідуюць?**

— Залежыць ад таго, Рускі свет прыйдзе ў хаўрусе з Лукашэнкам ці ў канфлікце. Калі ў хаўрусе, то мы нават з дому выйсці не паспеем, як будзем нейтралізаваныя. Калі ў канфлікце — тады ёсць нейкі шанец выйсці з дому, забрацца ў лес і ўзяць нейкую вінтоўку. У любым выпадку, калі я буду жывы, я буду ваяваць.

**— Як ты прыйшоў да нацыянальнай ідэі?**

— У 1995, калі Лукашэнка праводзіў першы рэферэндум, мне было 12 гадоў. Але ўжо ў той момант я сваім дзіцячым розумам не мог зразумець, як нацыя адракаецца свайго герба, сцяга. У школе я лічыў беларускую мову калхознай — нас так вучылі. А рэферэндум заклаў у маю душу неўспрыманне гэтага рэжыму. І гэта — самая вялікая стратэгічная памылка гэтай улады. Лукашэнка добры тактык, але кепскі стратэг.

Каб Лукашэнка меў бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню», ён спакойна мог бы сёння зарганізаваць пад свае сцягі ўсіх беларускіх нацыяналістаў. Але як можна пайсці служыць пад гэты саўковы сцяг? Стаць пад гэтую савецкую зорку, пад якой была вынішчана эліта нашага народа? Ды калі б не 95-ты год, я, думаю, увогуле ніколі б ні ў якую апазіцыю не пайшоў.

**— І як адбыўся «ўваход» у апазіцыю?**

— У 2000 годзе я пераехаў у Мінск, працаваў на прыватным заводзе хімічнай прамысловасці ў Зялёным Лузе. І мы з сынам дырэктара перыядычна паддавалі пасля працы. Пасля чарговай паддачы я яму сказаў, што, маўляў, няма сіл, трэба ісці ў апазіцыю! Ён мне кажа: «Давай, я цябе завяду!» І мы прыехалі трамваем з Зялёнага Луга на Варвашэні. «Вось тут беларуская апазіцыя. Заходзь!» І я зайшоў *(смяецца)*.

**— А да пратэстантызму як прыйшоў?**

— Калі я прыйшоў у «Малады Фронт», мы былі як уся звычайная моладзь: бухалі, курылі, дзевак цягалі. Што там трэба хлопцу ў 20 гадоў! І ў пэўны момант ва мне ўзнік канфлікт: днём ты прапагандуеш змаганне за новую Беларусь, за перамены, а ўвечары — нажэрліся, лычы адзін аднаму пабілі! Я ў пэўны момант зразумеў, што гэта двудушша, калі ты заклікаеш да перамен, а сябе змяніць не можаш. Аляксей Шэін запрасіў мяне ў пратэстанцкую супольнасць Яна Прадвесніка. І там я знайшоў жывога Бога.

## У сілавых структурах лёгка застацца сумленным

**— Турма цябе змяніла?**

— Шапказакідальніцтва знікла, так. У нашым грамадстве гэта страшная праблема. Калі гаворыцца і не выконваецца.

**— Чаго табе ў турме больш за ўсё не хапала?**

— Любімых людзей, сяброў, інфармацыі. Ежы не хапала, цяпла. Спаць хацелася пастаянна, а не падымацца пяць разоў за ноч на зарадку. Мне турма дапамагае шанаваць тое, што я маю цяпер. Вось мы тут п'ем гарбату, для цябе гэта пофіг. А ў турме, калі ты не маеш магчымасць заварыць гарбату, гэта свята!

**— Памятаеш, калі цябе першы раз забрала міліцыя?**

— На адной з нейкіх акцый МФ у годзе 2001. Цяжка ўзгадаць. Раней і сістэма была не такая, як да 2004 года, да рэферэндуму. Былі выпадкі, калі за пратаколы аб тым, што я лаяўся матам, мяне суддзя апраўдваў.

**— А што твае бацькі казалі, калі ты трапляў у СІЗА?**

— Любым бацькам не падабаецца, калі з іх дзіцём такое адбываецца. А яшчэ ж людзі савецкга гарту, прывыклі, што калі дыктатура, то на вякі. Але на бацьку моцна паўплывала хваля салідарнасці, калі мяне судзілі ў 2006 годзе. У зоне таксама былі ў шоку, калі бачылі, што сотні лістоў прыходзіла кожны дзень. Яны думалі, што мы — кучка нейкіх маргіналаў неадэкватных, а тут аднаму Дашкевічу столькі лістоў з розных канцоў краіны.

**— У якой калоніі было найцяжэй?**

— Твой родны Мазыр! *(Смяецца.)* Гэта трэш! Там эксперыментальная калонія. Ну і начальнік калоніі давай мяне распытваць, хто я ды за што заехаў. Расказаў яму пра «Малады Фронт», што я пратэстант. Ну і пачалося — гэты начальнік давай раўці. «Ды мы за рускую расу! Мы праваслаўныя! Ды я вас, сектантаў, на парог не пускаю! — і гэта ўсё матамі. — Ды я цябе пасаджу, цябе будуць там трахаць!» Там такая нарада збіраецца з дзесяці начальнікаў калоніі, і яны на цябе равуць усе. А ты адзін стаіш і слухаеш гэта ўсё. За табой стаяць канваіры з дубінкамі. Рыпнешся — закатваюць у бетон. Кажуць, што яны спецыяльна так і правакуюць, каб цябе закаталі і пасля за ногі выцягнулі. А гэта людзі з вышэйшай адукацыяй, палкоўнікі, падпалкоўнікі. Страшнейшыя за зэкаў! Бо зэк пяць год пасядзеў і выйшаў, а яны там усё жыццё. Пра што яны з дзецьмі і ўнукамі размаўляюць? Што яшчэ цікава, калі прыязджаў папскі нунцый, дык мяне таксама ж на сустрэчу з ім запрасілі ў кабінет начальніка — яны там усе ў шоку былі. Яны ж там крычалі мне, што я нікому не трэба, а тут такі паварот. Пасля Наста яшчэ знайшла праваслаўнага святара, які да мяне завітваў. Дык пасля гэтага да мяне там толькі на вы і шэптам звярталіся *(смяецца)*.

**— Вяселле ў турме — гэта як?**

— Вяселле ў нас было на волі, а распісаліся мы ў турме. І ёй было цяжка, калі я сядзеў, бо не ведаў, колькі мне засталося. Ёсць людзі, якія заязджаюць з двума гадамі, а сядзяць па 10 пасля.

**— Запрашаў на вяселле тых міліцыянтаў, якія былі сведкамі?**

— У турме запрашаў, а на волі — не. Кантактаў не засталося — ні адрасоў, ні тэлефонаў. Часам, праўда, сустракаюся ў Мінску з іншымі «знаёмымі» міліцыянтамі. Напрыклад, пракурорам, які на мяне справу заводзіў у 2006 годзе — перамовілі трохі. Ці з амапаўцам, які скончыў службу.

**— Значыць, не ўсе міліцыянты дрэнныя?**

— Ёсць міліцыянеры, якія ў камеру мне прыносілі заварку, яблыкі. Яны рызыкавалі сваімі пагонамі. На жаль, у іх такая прафесія, што самыя горшыя душэўныя якасці рэалізуюцца беспакарана. Я сустракаў міліцыянераў — добрыя хлопцы, з гумарам. А пасля ім даюць загад — біць чалавека нагамі на прадоле, і яны б'юць. Там чалавек не можа быць сумленным больш за пару год.

**— Як гэта змяніць?**

— Да Хрыста таксама ж прыходзілі салдаты і пыталіся, што ім рабіць. І ён жа не сказаў ім сыходзіць з войска. Ён сказаў ім нікога не біць, не лжэсведчыць і не браць хабар. Ён вызначыў канкрэтныя рэчы для ўсіх узброеных служак дзяржавы. У нас жа ўсе збіваюць, усе лжэсведчаць і ўсе крадуць. І дзяржава зацікаўленая ў тым, каб усіх павязаць, каб на кожнага была тэчка з кампраматам.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

# У «Еўрабачанні» перамагла песня пра падлеткаў, якія пакутуюць ад хуліганаў

23 мая ў Вене адбыўся фінал 60-га юбілейнага конкурсу песні «Еўрабачанне». Што адбывалася **на сцэне і вакол яе**?



**Вынікі «Еўрабачання»: першая дзясятка**

Швецыя — 365 балаў
Расія — 303
Італія — 292
Бельгія — 217
Аўстралія — 196
Латвія — 186
Эстонія — 105
Нарвегія — 102
Ізраіль — 97
Сербія — 53

### Аўдыторыя — 180 мільёнаў

Сярод відовішчаў, якія прыцягваюць да тэлеэкранаў людзей па ўсім свеце, «Еўрабачанне» — адзін з лідараў. Летась фінал конкурсу паглядзелі 180 мільёнаў чалавек. Гэта сувымерна з аўдыторыяй вялікіх спартовых падзей — фінал Лігі чэмпіёнаў паміж «Рэалам» і «Атлетыкам» па футболе глядзелі 165 мільёнаў. Але ўдвая болей за аўдыторыю, напрыклад, цырымоніі ўзнагароджання ўладальнікаў «Оскара», за якой назіралі «ўсяго толькі» 50 мільёнаў.

Яшчэ, дзякуючы сістэме галасавання, «Еўрабачанне» ілюструе геапалітычныя расклады. Суседзі-сябры ставяць адно аднаму з салідарнасці максімальныя 12 балаў (як скандынаўскія краіны); тыя, хто канфліктуе — абменьваюцца нулямі (як Арменія з Азербайджанам).

Сёлета «Еўрабачанне» праходзіла ў Вене — пасля леташняй перамогі «барадатай спявачкі» Канчыты Вурст. Дзея адбывалася на крытым стадыёне «Вінэр Штатхале» на 16 тысяч месцаў. Аўстрыйская сталіца прымала конкурс другі раз у гісторыі, першы адбыўся ў 1967, калі на «Еўрабачанні-1966» перамог Уда Юргенс. Упершыню ў гісторыі конкурсу трыа яго вядучых было выключна жаночым: на сцэне былі акторкі Мірыям Вайксельбраўн, Эліс Тумплер і Арабэла Кісбаўэр. Таксама незвычайным быў удзел у конкурсе Аўстраліі — заакіянскую краіну запрасілі з нагоды 60-годдзя «Еўрабачання». І яна з лёту трапіла ў пяцёрку лідараў!

### Упэўненая перамога Швецыі

Шведскага выканаўцу Монса Сельмерлёва з яго завадной песняй Heroes («Героі») яшчэ да пачатку конкурсу лічылі фаварытам. Плюс — ідэальнае выкананне, танец, скаардынаваны са светлавым шоу. Эфект быў дасягнуты — ён перамог з вялізным адрывам, атрымаўшы максімальныя адзнакі ад 12 краін. Цяпер бліжэйшыя некалькі месяцаў мы будзем чуць з кожнага праса менавіта шведскую кампазіцыю пра герояў. Гэта шосты трыумф Швецыі ў гісторыі «Еўрабачання». Больш (на адну) перамог толькі ў Ірландыі. Сам Сельмерлёў прысвяціў сваю кампазіцыю падлеткам, якія пакутуюць ад хуліганаў.

### Юзары і Маймуна не выйшлі ў фінал

Прадстаўнікі нашай краіны, Uzari & Maimuna, набралі ў паўфінале ўсяго 39 балаў — і атрымалі 12 месца. Юзары — сцэнічны псеўданім 24-гадовага поп-спевака, музыкі ў трэцім пакаленні Юрыя Наўроцкага. Поўнае імя скрыпачкі Маймуны — Маймуна Амаду Мурашка. Мурашка — прозвішча мужа, дзявочае — Дыко. Маці Маймуны — беларуска, а бацька — маліец, яны навукоўцы-хімікі. Першыя чатыры гады жыцця Маймуна пражыла ў Малі, але арганізм дзяўчынкі дрэнна пераносіў афрыканскі клімат, і яе перавезлі да бабы на Магілёўшчыну. 35-гадовая Маймуна — прафесійная скрыпачка, яна грала ў Прэзідэнцкім аркестры Беларусі і запісала два альбомы. І дваіх дзяцей гадуе.



Падчас абвяшчэння галасоў побач з Палінай Гагарынай сядзела Канчыта Вурст. У Расіі гэта выклікала шал.

Але ў поспех беларускіх артыстаў на «Еўрабачанні» сёлета мала хто верыў — іх кампазіцыя Time («Час») не выклікала адзінагалоснага захаплення нават у нашай краіне падчас адбору. Затое яе ўпадабала адна з самых музычных нацый Еўропы — грузіны. Грузія паставіла Юзары і Маймуне максімальную ацэнку — 12 балаў.

Расія дала ўдвая менш. 8 балаў мы атрымалі ад Малдовы, 7 — ад Арменіі, па 3 — ад Даніі і Грэцыі. Нягледзячы на гэта, у фінале беларусы аддалі 12 балаў Расіі, 10 — пераможцу шведу, а 8 — Бельгіі. Шчодрым грузінам мы аддзячылі толькі трыма баламі. А вось беларускае журы гэтым разам першае месца аддало Швецыі, а не Расіі. Гледачы ж галасавалі за Гагарыну.

### Гагарына ў цэнтры скандалу

Удзельніца «Еўрабачання» ад Расіі Паліна Гагарына сутыкнулася за час конкурсу з сур'ёзнай хваляй негатыву. 16-тысячны стадыён сустрэў яе незадаволеным гулам — у асобе Гагарынай «перадавалі прывітанне» агрэсіі Расіі супраць Украіны. Расійскія ж СМІ пачалі цкаваць яе, калі яна апублікавала ў інтэрнэце відэазапіс, на якім яна абдымаецца з Канчытай Вурст.

Адыёзны дэпутат з Санкт-Пецярбурга Мілонаў увогуле заявіў, што Гагарына «мандата ад Расіі не мае», і заклікаў «не гадзіць Расію абдымкамі з еўравычварэнцамі».

Таксама расійскія тэлеканалы змагаліся з Канчытай Вурст у эфіры, пры найменшай магчымасці ўключаючы замест яе то шоу Андрэя Малахава, то рэкламу. Але паказаць расійскаму гледачу конкурс зусім без вядучага так і не ўдалося.

### Без Украіны

Украіна сёлета ў «Еўрабачанні» ўдзелу не брала, патлумачыўшы гэта фінансавымі праблемамі і складаным палітычным становішчам. Відаць, тое ж будзе і налета. І не адна Украіна: туркі не прыязджаюць на конкурс з 2013-га, пратэстуючы супраць цяперашняй сістэмы галасавання. У Турцыі стварылі ўласны конкурс песні сярод цюркамоўных краін пад назвай «Цюркабачанне», першы фінал якога прайшоў у снежні 2013. Што цікава, другое месца ў той год дасталася... Беларусі, якую прадстаўляла Гюнэш Абасава. Больш наша краіна ў «Цюркабачанні» не ўдзельнічала. Еўропа ўсё ж.

**Зміцер Міцкевіч**





### Прадаецца невядомае фота Яўхіма Карскага

Здымак 1893 года з'явіўся на інтэрнэт-аўкцыёне ay.by і ўжо дасягнуў цаны ў 4 млн рублёў. Прадавец сцвярджае, што гэта здымак Яўхіма Карскага, слаўтага навукоўца, аўтара манаграфіі «Беларусы» — першай грунтоўнай працы па вывучэнні побыту і звычаяў беларускага народа. Фота зробленае ў Варшаве, дзе ад пачатку 1893-га Карскі выкладаў расейскую мову ва ўніверсітэце. Таксама ён абараніў магістарскую дысертацыю «Да гісторыі гукаў і форм беларускай гаворкі» ў Кіеўскім універсітэце. Гэта была першая ў гісторыі дысертацыя, прысвечаная беларускай мове.

**Руслан Равяка**

## Дынглі: Скарынаўскую бібліятэку ў Лондане наведвае адзін чалавек

Брытанец Джым Дынглі прыехаў у Беларусь на Міжнародны кангрэс беларусістаў, які адбудзецца ў Мінску на гэтым тыдні. У Лондане сп. Дынглі ўваходзіць у склад Апякунскай рады Скарынаўскай бібліятэкі. Пасля смерці яе заснавальніка, а. Аляксандра Надсана, установа страціла кіраўніка. Ці не спыніць бібліятэка сваё шматгадовае існаванне?

«Мы прынялі рашэнне адлічбаваць усю калекцыю дакументаў, — адказвае англійскі беларусіст. — Пачынаем з часопісаў. А пасля пяройдзем да архіваў — гэта аграмадная калекцыя скрынак з архіўнымі матэрыяламі. Ніхто не карыстаўся гэтымі матэрыяламі, бо не ведаў, што там. Дакументы будуць у інтэрнэце ў свабодным доступе».

Пытанне, ці можа бібліятэка спыніць існаванне, кажа Дынглі, не стаіць: «Існуе Апякунская рада па англійскіх законах. І ніхто не мае права зачыніць без дазволу рады, а мы такога дазволу не дадзім». Іншая справа — грашовыя сродкі: «Штогод мы плацім 3–4 тысячы фунтаў толькі для таго, каб будынак стаяў». Ці можна вольна трапіць у бібліятэку? «Калі мы ведаем, што нехта прыедзе, можам там быць. Але трэба ведаць загадзя, — кажа Дынглі. — Шчыра кажучы, ніхто не карыстаецца бібліятэкай, акрамя даследчыка Арнольда Макміліна».

**Сяргей Макарэвіч**



Андрэй Аляксандраў

# «Марцінкевіч ходзіць, а па ім звон звоніць»

Гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд** даказаў, што гісторыя з прыжыццёвым пахаваннем Дуніна-Марцінкевіча — не анекдот.

Імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры — вядома кожнаму школьніку. Але і ў сярэдзіне XIX стагоддзя ён быў адным з самых вядомых людзей. Праўда, вядомасць тая пашыралася толькі на губернскі горад Мінск, дзе Марцінкевіч пасяліўся ў канцы 1820-х. Але папулярнасць і прызнавальнасць яго былі сапраўднымі, ну рыхтык як у сучасных попзорак. Перш за ўсё яму вядомасць прынесла тэатральная дзейнасць.



Мінск часоў Дуніна-Марцінкевіча. Плошча Высокі Рынак. Гравюра Напалеона Орды. Сабор — каталіцкая катэдра. Будынак справа ад яго не захаваўся. На месцы яго цяпер стаіць адміністратыўны будынак, дзе месяцца пасольствы Францыі і Балгарыі.

### «Быў пацешнейшы за ўсіх»

Ужо першыя пастаноўкі на сцэне Мінскага тэатра ў суаўтарстве з кампазітарам Станіславам Манюшкам былі прыхільна сустрэтыя публікай. У губернскіх газетах адзначалася акцёрская ігра самога 33-гадовага Вінцэнта. У 1841, пасля першай пастаноўкі аперэты «Рэкруцкі яўрэйскі набор» у «Мінскіх губернскіх ведамасцях» адзначалася: «Сачыніцель Марцінкевіч быў пацешнейшы за ўсіх». У 1852 таксама прыхільна былі сустрэты таленты Марцінкевіча пасля пастаноўкі оперы «Сялянка» (ці «Ідылія»): «Вельмі добра выглядаў сам аўтар у ролі Навума Прыгаворкі і ў танцы «Мяцеліца»... Калі б яго творы былі пастаўленыя на вялікай сцэне, ад гэтага, бясспрэчна, была б карысць як для тэатра, так і для аўтара».

Менавіта таму адзін з малавядомых «тэатральных» эпізодаў з жыцця Вікенція Марцінкевіча ўспрымаўся ўсяго толькі як анекдот ці, як бы цяпер сказалі, «газетная качка». Пра гэты выпадак, як пра галоўную навіну з жыцця Мінска, пісаў у лісце жонцы той жа Станіслаў Манюшка. Падамо гэты аповед у перакaзе Адама Мальдзіса: «Нейкі багаты «жартаўнік» рашыў адпомсціць пісьменніку за прайграны ў судзе працэс і, ад'язджаючы, заказаў «пахавальны звон за спакой душы Марцінкевіча, а ў касцёле купіў саван і пахавальныя падсвечнікі і ўсю гэту пакупку паслаў яму на дом. Пачынаюць званіць у званы — ты ведаеш, што мінскія званы не любяць жартаваць і што гарадскім разявам толькі таго і трэба! І вось кожны пытае: па кім звоняць? Жабракі адказваюць, што памёр... Марцінкевіч, які жыў за губернатарскім садам. Вестка хутка распаўсюджваецца па ўсім горадзе. І трэба ж было здарыцца такой бядзе, што сам Марцінкевіч сустрэў людзей, якія неслі саван і падсвечнікі, і спытаў іх: — Каму нясуць? — Марцінавічу. — Якому?.. Скандал, вэрхал, паліцыя шукае віноўніка свавольства. Па ўсім горадзе шукаюць жартаўніка, а яго даўно і след прастыў».

Выпадак нагадвае анекдот, але...

### Данос Душкевіча

У 30—40-я гады XIX стагоддзя расквітнеў яшчэ адзін талент Вінцэнта Марцінкевіча — талент, у якім спалучаліся ўменне мастака і каліграфа, веды дасведчанага чыноўніка, які ўмее правільна скласці любую «патрэбную паперу», а таксама веды гісторыі і палеаграфіі — навукі, «якая вывучае гісторыю пісьма, а таксама помнікі старажытнай пісьменнасці дзеля іх чытання». Праўда, мэты ў Вінцэнта і яго таварышаў былі крыху іншыя.

«Наша Ніва» ў артыкуле «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і падробка пячатак» у снежні 2014 ужо пісала аб тым, як непрыемная гісторыя ў справе аб падробцы дакументаў прывяла маладога Марцінкевіча ў Мінскі турэмны замак у 1835 годзе. Але тады для яго ўсё скончылася паспяхова, і пасля 4 месяцаў арышту Вінцэнт змог нават вярнуцца на працу ў Мінскую рымска-каталіцкую духоўную кансісторыю. Але гісторыя на гэтым не скончылася.

16 верасня 1844 года да Менскага грамадзянскага губернатара Аляксея Васілевіча Сямёнава з'явіўся селянін Іосіф Душкевіч, які распавёў прадстаўніку ўлады пра новыя правіны Вінцэнта Марцінкевіча: «Завуць яго Іосіф Душкевіч, селянін Мінскага павета памешчыка Любанскага маёнтка Мнішан, які знаходзіцца ў адміністрацыі памешчыка Вінцэнта Марцінкевіча, ад роду мае 20 гадоў, рымска-каталіцкага веравызнання, чые абрады выконвае акуратна, пад судом не быў, халасты, непісьменны, паказаў: адміністратар названага маёнтка Марцінкевіч узяў яго з вёскі чацвёрты таму год і ўтрымлівае ў сябе ў горадзе Мінску, дзе ён выконвае ўсе працы, не атрымліваючы за працу ніякага ўзнагароджання, акрамя таго, яго дрэнна кормяць і не даюць прыстойнай вопраткі і часта без усялякай віны жорстка карае сам Марцінкевіч. Прычым дадаў, што Марцінкевіч займаецца хаджэннем па справах аб дваранскім паходжанні розных асоб і складае падложныя дакументы, для чаго ўжывае старую паперу, якую яму дастаўляе былы служобвец магістрата Ключынскі, а пісаць дапамагае нехта Квяткоўскі (ён жыве ў Марцінкевіча). Разам з ім яны выкарыстоўваюць ваду, размяшаную з тытунем, а каб паперы надаць стары выгляд, кладуць іх у каву, і потым, высушыўшы, ужываюць для напісання старажытных дакументаў. ...У Марцінкевіча пражывае цяпер са Слуцкага павета Рачыцкі, якому ён абяцаў выклапатаць дваранства, за што дамовіўся атрымаць 200 рублёў срэбрам...»

### «Шчытаю патрэбным растлумачыць»

Сямёнаў неадкладна даручыў правесці расследаванне, якое пачалося з праведзенага ў экстраным парадкуператрусу ў доме Марцінкевіча. Але ніякіх падазроных рэчаў не знайшлі, толькі ў стайні па ўказанні таго ж Душкевіча пад дахам знойдзеная «драўляная калодка, якая ўжываецца нібыта для нанясення пячатак, і невялікі скураны чамаданчык, у якім былі старыя шляхецкія паперы, якія належаць дваранiну Рачыцкаму, які спыніўся ў яго».

Натуральна, Марцінкевіч адмаўляў удзел у падробцы дакументаў, тлумачачы данос Душкевіча інтрыгай памешчыка маёнтка Мнішаны Любанскага.

«Шчытаю (так у арыгінале!) патрэбным растлумачыць: калі Любанскі па даносе жонкі сваёй адпраўлены быў на жыхарства ў Вяцкую губерню, то давер аб хаджэнні па справе ў маёнтку Мнішаны даў адвакату Любавіцкаму, якому даў сапраўдную даверанасць, ён жа, Любавіцкі, калі я прыняў такую ж ад жонкі Любанскага, стараўся мяне схіліць на свой бок, калі ж гэтае яму не ўдалося, то завёў справу ў складанні быццам бы падробленых дакументаў... бачачы, што яго паклёпу нідзе не даюць веры, прыдумаў падгаварыць прыгоннага Любанскай Юзука Душкевіча, данос якога быць не можа быць прыняты, бо ён, Юзук Душкевіч, знаходзіцца пад следствам за крымінальнае злачынства, і справа яго знаходзіцца ў Мінскай гарадской паліцыі...»

Трэба аддаць належнае Марцінкевічу: апытанне ўсіх суседзяў паказала, што ён выключна станоўчых паводзін, ніхто і ніколі нічога дрэннага пра яго ніколі не чуў. А вось што тычыцца паводзінаў селяніна Душкевіча, то ўсе апытаныя паказалі, што ён «паводзінаў у грамадстве ёсць нясцерпных, бо займаецца распустай, а часам і крадзяжом». Сам Марцінкевіч баяўся яго помсты: «Я асцерагаюся, каб ён не выканаў сваіх пагроз і не падпаліў дамоў маіх, то і ўпрошваюць Ваша благароддзе ўжыць найстражэйшыя меры, каб ён быў утрыманы пад строгай вартай ці ж дасланы ў турэмны замак».

### Сведка «пахавання»

Ход гэтай справы, якая доўжылася не адзін год, трохі адцягнула нас ад пытання аб зладжаным Вінцэнта Марцінкевіча «пахаванні». Натуральна, па даносе Душкевіча былі дапытаныя ўсе, хто хоць нешта мог ведаць: і сам Ключынскі, які па інфармацыі даносчыка дастаўляў яму старадаўнюю паперу, а таксама яго служанка Барбара Жыдкевіч. На допыце 22 студзеня 1847 яна паказала: «За дзевяць гадоў службы ў Ключынскага памешчык Марцінкевіч ніводнага разу ў доме Ключынскага не быў, яна ж, Барбара, таго Марцінкевіча ведае па выглядзе толькі праз тое, што, не помніць якога года, білі ў званы ў кафедральным касцёле, і на пытанне, хто там памёр, казалі, што Марцінкевіч. Між тым ён выйшаў з кандытарскай, тут, паказваючы на яго, сказалі, што Марцінкевіч ходзіць, а па ім звон...»

Такім чынам, мы маем дакладныя паказанні сведкі, якая асабіста бачыла Марцінкевіча, які выходзіў з кандытарскай у той шумны дзень. На жаль, нам дакладна невядомая дата здарэння, а таксама аўтар, мабыць, самай маштабнай тэатральнай пастаноўкі з удзелам Вінцэнта Марцінкевіча, сцэнаю для якой стаў увесь горад Мінск, а гледачамі — усе мінчукі. Паколькі Манюшка піша ў сваім лісце аб помсце за прайграны судовы працэс, а таксама аб тым, што ў справу ўмяшалася паліцыя, то ў нас ёсць надзея з часам даведацца і імя рэжысёра-пастаноўшчыка перформансу «пахаванне Марцінкевіча». Безумоўна, замоўца быў забяспечаным, калі змог выдаткаваць на такі жарт немалыя грошы. Ім, цалкам верагодна, мог быць названы вышэй памешчык Бенедыкт Любанскі, які, прайграўшы некалькі судовых спраў, у тым ліку аб нібыта падробленых Марцінкевічам дакументах, быў адпраўлены ў Вяцкую губерню.

Гісторыя даказала вядомую народную прымету: той, аб чыёй смерці пачалі казаць заўчасна, пражыве доўгае жыццё. Пасля свайго мінскага «пахавання» Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч пражыў яшчэ больш за сорак гадоў, поўных падзеяў і творчасці, і сваім жыццём па праве заслужыў цяперашнюю неўміручасць.



Мінск у пачатку XIX стагоддзя, Валокі Полацкія (сённяшні раён дома Ванькові чаў). І не скажаш нават, што ў гэтым горадзе была кандытарская.

**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# «За колькі ты прадаўся, вырадак?» Краналная споведзь рускага студэнта

**Іван Кульнёў** нарадзіўся пад Варонежам, а вучыцца ў Берліне. Чарговая паездка дахаты на вакацыі ўзрушыла яго да глыбіні душы. Ён стаў чужы бацькам, у пасялковай бібліятэцы яго прынялі за шпіёна проста таму, што ён быў з фотаапаратам, а дзядзька-алкаголік сустракае пытаннем «**Ванёк, што там з Украінай?** Я тут хварэю проста за апалчэнцаў!»…




### Дзень першы

Люты 2015 года. Пасля амаль двухгадовай паўзы вяртаюся ў Расію. Цягнік Калінінград — Адлер вязе мяне ў Варонеж, на радзіму...

Праўдніца — мілая жанчына, цікаўна распытвае: адкуль, куды, ці надоўга. Размова пра ўсё і ні пра што, але некаторыя дэталі яе ўразаюцца ў памяць, затым аналізуюцца.

— У нас такая добрая КРАІНА, такая добрая! А горад у нас наогул выдатны. Ты ж студэнт, кажаш? У нас у Калінінградзе таксама такія студэнцкі добрыя, хлопчыкі і дзяўчынкі. Усё так добра, так выдатна, так выдатна! — скорагаворкай, верачы ў сказанае, нібы заклён, паўтарае яна як бы завучаны тэкст.

На прыпынку дзіцячы твар дарослай жанчыны сумнее, і яна раптавядае пра тое, што сапраўды хвалюе:

— Зноў ідуць па бабло, — уздыхаючы, з асцярогай на твары.

— Хто ідзе?

— Дык рэвізоры! Вунь, глядзі. Кантралююць, ці ўсё ў парадку. У мінулы раз пяціхатку здзерлі. Прыкінь, толькі за тое, што цэннік зляцеў. І яны на мяне: печыва, маўляў, не маё, я ім гандлюю. Ох, як дастала ўсё гэта!

— І часта такое бывае?

— Ды кожны раз да чаго-небудзь прыдзіраюцца!

...Прашу гарбату. Падаюць шклянку ў жалезнай аправе, на якой выціснутая Спаская вежа Крамля. Нерэальных маштабаў вежа з велізарнай камуністычнай зоркай уваткнутая ў зямны шар, пераўзыходзіць яго па памерах. Сваёй востраканцовай зоркай яна чапляе іншыя галактыкі. З-пад вежы, як бы з яе шарашкіных падвалаў, вылятаюць ракеты і спадарожнікі. Якая, аднак, моцная метафара!

### Дзень другі

Прыбываю ў Варонеж. Прайшло амаль два гады, а здаецца, што бацькоў не бачыў вечнасць. Радасць сустрэчы змяняецца цяжкім пачуццём страты чагосьці... Бацькі пастарэлі, і прыкметна, іх замардаваны выгляд — вынік стомленасці ад звычайнага расійскага жыцця — ледзь хаваецца.

Яны ведаюць пра мае палітычныя погляды, і мы стараемся ў першыя гадзіны захоўваць далікатны кампраміс. Але мы не ў Нямеччыне, а я ж таксама рускі! Эмоцыі бяруць верх, і пачуццям даецца поўная свабода.

— Мы за УЛАДЗІМІРА УЛАДЗІМІРАВІЧА! Не хапала, каб у нас яшчэ такое было, як на гэтай Украіне! ЗНІШЧЫМ ГЭТУ БАНДЭРВУ ПРАКЛЯТУЮ! А Амерыка? Уліцкую я больш не чытаю! ФАШЫСЦКАЯ БАНДЭРВА! Калі трэба, пойдзем з віламі РАДЗІМУ бараніць!

А былі ж музеі, цыркі, тэатры і карцінныя галерэі ў дзяцінстве, куды мяне бацькі ахвотна вадзілі. Былі сур'ёзныя кнігі, што чыталіся па вечарах, і газетныя артыкулы ў тых дабраславёных дзевяностых, калі газеты яшчэ выконвалі свае газетныя функцыі.

Дома без перабою ўключаны тэлевізар. Галасы падонкаўпрапагандыстаў з пафасам паведамляюць пра «ўкраінскіх карнікаў, якія ў чарговы раз парушылі Мінскія дамоўленасці», і пра «герояў-апалчэнцаў».

### Дзень чацвёрты

Увесь дзень праводжу ў бібліятэцы. Збіраю матэрыялы для працы, цікаўлюся газетамі брэжнеўскага часу і НЭПу. Іду капіяваць «Комсомольскую правду» 1970-х гадоў і «Вести» 1920-х.

На другім паверсе бібліятэкі заўсёды выставы. Гэтым разам — «Имею честь служить тебе, Россия!». Назвы кніг гавораць самі за сябе: «Армія дзяржавы Расійскай і абарона Айчыны», «Спецназ ГРУ», «З іх пачыналася разведка» (на вокладцы партрэт ката Дзяржынскага), «Сталінскі спецназ. Героі асаблівага прызначэння», «Заўтра вайна!»...

Заходжу ў відэааддзел. На сцяне вісяць партрэты дарагіх і любімых Уладзіміра Уладзіміравіча і Дзмітрыя Анатолевіча і мясцовага губернатара, павязаныя георгіеўскай стужачкай.

Як міла!

А менавіта ў гэтай відэазале я ўпершыню паглядзеў «Халоднае лета пяцьдзясят трэцяга» і шмат чаго вартага.

Іду па багата ўпрыгожаным мілітарысцкімі плакатамі горадзе, заходжу ў кнігарню і бачу... тое самае, што і паўсюль: пярэстыя і безгустоўна аформленыя прапагандысцкія брашуры, якімі завалена ўсё: «Збеглі адважныя грузіны», «Забойства Савецкага Саюза», « Украіна ў агні», «Калі НАТА будзе бамбіць Расію?», «Рускія ідуць! Чаму баяцца Расіі?», «Як Расіі перамагчы Амерыку», «Каламойскаму Украіна» і гэтак далей.

Пры познім «саўку» горы макулатуры (не такой, аднак, атрутнай і злоснай) пыліліся ў крамах і іх ніхто не чытаў. Макулатура ўтылізавалася, выраблялася зноў і зноўку ўтылізавалася. Сёння ж рынак — гэта значыць, прадаецца тое, што купляецца. Значыць, на ўсё гэта ёсць попыт?

### Дзень пяты

Увесь вечар вымушаны слухаць какафонію з манатонных тупых удараў, што гучна даносіцца з верхняга паверха. І гэта паўтараецца кожны дзень і ноч. Кажу сястры:

— Аня, гэта невыносна! Можа, паліцыю выклікаць?

— Ты што, смяешся?

Іду на разборкі. Дзверы не адчыняюць, але музыка на пэўны час сціхае, каб праз нейкі час з яшчэ большай сілай пачаць раздражняць далей. А дзецца няма куды...

### Дзень восьмы

Па вечарах гляджу з пляменнікам фільмы. То старыя і добрыя савецкія мультфільмы з невычэрпным гуманізмам, на якіх выхоўваліся мільёны дзяцей.

Разглядаем карту. Знайдзі мне Уладзівасток, Санкт-Пецярбург, дзе Вільнюс? Пскоў? Баку? Малайчына! Чэлябінск? А зараз пакажы Кіеў...

— Дык там жа хахлы, дзядзя Ваня, яны дрэнныя! — паварочвае галаву на мяне другакласнік і глядзіць нейкі наіўна-няўцямна, як і мусіць глядзець дзіця.

У геніяльным «Звычайным фашызме» М. Ром паказаў у дэталях механізм аскаціньвання чалавека, ператварэння яго ў шрубок усёмагутнай левіяфанаўскай Дзяржавы. Найбольш пранізлівыя кадры — аб дзецях, чые маладыя мазгі былі атручаныя таталітарным Монстрам. Усё пакаленне ў выніку аказалася знішчаным. Так і сёння пуцінскі Рэйх плодзіць ваўчанят, заўтрашні гной, угнаенне...

### Дзень дзявяты

Увечары наступаю на тыя ж самыя граблі. Маю зносіны з патрыётамі. Гаворка заходзіць пра палітыку, пра Украіну. Яна ўсюды, гэтая Украіна. Яна лунае ў паветры, ёй дыхаюць, ёй жывуць, яе ненавідзяць. Ёй, што апынулася ва ўладзе міфічных бэндэраўцаў, фашыстаў і заакіянскіх імперыялістаў, шчыра спачуваюць, седзячы на канапе.

— «Дождь» — гэта МЯРЗОТА, МЯРЗОТА! Гэты Аляксашанка... Я б... Я б...

— Вы слухалі хоць раз у жыцці «Дождь»? Пра што там кажуць?

— НЕ! І не хачу слухаць!



— Дык чаму ж вы, ні разу не слухаўшы, сцвярджаеце, што гэта мярзота?

Нейкае замяшанне, затым:

— Людзі так кажуць, якія слухаюць!

Потым упэўнены наступ з іншага боку:

— А Амерыка? Як яны Ірак бамбілі, Югаславію? Пра добрае таксама трэба гаварыць. У нас шмат усяго добрага.

Поўны сумбур.

### Дзень дзясяты. Перадапошні

Калі б не было гэтага дня, не было б, магчыма, і патрэбы пісаць усё гэта...

Еду туды, дзе кожнае лета праводзіў канікулы. Цягнік прыбывае на станцыю Сініцын пасёлка Воля. Выходжу. Цёплыя ўспаміны дзяцінства.

Мяне папракаюць у тым, што я не бачу добрага. Чаму ж? Бачу! Газ правялі! Падзея! Краіна, якая дзесяцігоддзямі жыве з газавай рэнты, апшчаслівіла вернападданы народ і правяла нарэшце ў прыгарад абласнога цэнтра ў дваццаць першым стагоддзі газ. Давайце парадуемся.

Заходжу да дзядзькі-дэграданта, з цяжкасцю дагрукаўся да яго. Разбіты дом, крывая брамка. З парога:

— Ванёк, што там з Украінай? Я тут цэлымі днямі сяджу, тэлевізар гляджу і хварэю проста за апалчэнцаў! Пачакай, яшчэ трошкі — і яны задушаць гэтых натаўскіх гадаў.

— Ну, у мяне іншае меркаванне.

— Ты што, за іх? — са страшным здзіўленнем і небяспечным неўразуменнем глядзіць на мяне. — Ціха, ціха... Не шумі. А то суседзі пачуюць, засаромяць.

Няма месца нацыяналздраднікам на святой рускай зямлі!

Накіроўваюся ў сакральнае для мяне месца — у мясцовую бібліятэку, яшчэ не ўяўляючы, што мяне там чакае.

Кажу хто я і адкуль.

— А ці не шпіён ты?

Мой фотаапарат, імаверна, навёў на гэтыя думкі. Падзеі развіваюцца хутка.

— Зараз мы праверым, хто ты на самай справе. Скажы, ХТО гэта? (Жанчына-бібліятэкар тыкае пальцам у танны агітпрапаўскі таблоід «Аргументы і факты»). На выяве — у дзіўнай позе прэзідэнт Парашэнка.

— Па-мойму, прыстойны чалавек, — шчыра адказваю я.

Столькі абразаў за раз мне даўно не даводзілася чуць. Яна замітусілася, як тыгр у клетцы, і потым, выходзячы з пакоя, аж разрываючыся ад нянавісці, напаўголасу вымавіла:

— ПРАДАЖНАЯ СССССУУУУКА!

Іншая жанчына, за сталом, з прыгожымі рускімі рысамі твару, апусціла галаву. Я, прыгаломшаны тым, што адбылося, паспрабаваў завесці з ёй размову.

— Чаму вы так нервова рэагуеце? У мяне іншае меркаванне. Вы, нават не выслухаўшы ніводнага майго аргумента, адразу абражаеце мяне.

Наіўна, шчыра і без усякай злосці яна глядзіць мне ў твар:

— Як Вы можаце так казаць? На Украіне ва ўладзе фашысты!

Разумеючы, што далейшая гутарка бессэнсоўная, я прашу дазволу сфатаграфаваць стэнды з кнігамі.

Маладая дзяўчына, якая дагэтуль ціха сядзела ў каталогу, раптам ускоквае і шэрай мышкай пралятае да выхаду. З калідора чуваць выразна па літарах вымаўленая фраза:

— Ён там фатаграфуе!

Маланкай у дзвярах з'яўляецца поўная пільнасці дама, хутка крочыць у мой бок і, як у савецкіх фільмах пра шпіёнаў, пытаецца:

— Хто ты? Гавары! Адкуль ты?

Я ёй паказваю свой студэнцкі білет.

— Хто цябе паслаў туды? На якія грошы ты там? Я ж казала, казала, — крычыць яна гучней, амаль у істэрыцы. — У мяне нюх на іх, гадаў. ЗА КОЛЬКІ ПРАДАЎСЯ, ТЫ, ВЫРАДАК? КОЛЬКІ ТАБЕ ЗАПЛАЦІЛІ? НАШ УЛАДЗІМІР УЛАДЗІМІРАВІЧ! ТРЭБА ГАНАРЫЦЦА РАДЗІМАЙ, БЫЦЬ ПАТРЫЁТАМ! ТАК, ТАК, МОЖА, У ФЭ-ЭС-БЭ ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ?

Гэтая лексіка мне добра знаёмая па газетах трыццатых гадоў. Трэба сыходзіць, і як мага хутчэй. Яна наўздагон крычыць мне:

— ПШОЎ ВОН! ПРЭЧ З НАШАГА ПАСЁЛКА! ВОН!

### Дзень адзінаццаты. Апошні

Я мяняю квіткі ў касе, выбачаюся перад бацькамі і еду. Мне брыдка ўсё гэта.

У Маскве, бавячы час, гуляю па горадзе, іду ў бок Крамля.

Перад уваходам у бібліятэку сумуе Фёдар Міхайлавіч. Выпадкова заўважаю, што твар яго накіраваны на Крэмль. Дастаеўскаму ўдзячныя дэманы паставілі помнік і ў пакаранне павярнулі тварам на рубінавыя зоркі Крамля, каб ён вечна любаваўся тым, з'яўленне чаго так дакладна прадказаў. Гісторыя любіць пасміхацца.

Увечары сядаю на варшаўскі цягнік і еду прэч на Захад...

Пытанні, якія шмат гадоў сябе задаю: як, калі і чым усё гэта скончыцца? Задаю іх выкладчыку ва ўніверсітэце Гумбальта. Ён, глыбока ўздыхаючы, спакойна кажа:

— Ды як скончыцца? Як заўсёды там. Вялікім гвалтам і крывёю.




**БАТЭ ў трэці раз у гісторыі заваяваў Кубак Беларусі па футболе. У фінале барысаўцы разгромілі салігорскі «Шахцёр» з лікам 4:1. Праз месяц будзе лёсаванне еўракубкаў, у якіх возьмуць удзел БАТЭ, «Шахцёр», мінскае «Дынама» і жодзінскае «Тарпеда».**

АЛЯКСАНДР КАКШЫНСКІ, FCBATE.BY



**Пальміра ў Сірыі — адзін з найвялікшых антычных гарадоў, што захаваўся да нашага часу. Яна раней пацярпела ад бамбавання падчас атакі баевікоў Ісламскай дзяржавы. Цяпер, калі ісламісты захапілі цэлы горад, архітэктурныя помнікі могуць быць знішчаныя. Хутчэй за ўсё, баевікі паспрабуюць разбурыць усе помнікі даісламскіх часоў — так яны ўжо зрабілі ў шэрагу захопленых гарадоў: Німрудзе, Масуле і іншых. Радыкалы прапануюць нават зруйнаваць егіпецкія піраміды.**




АЛЯКСАНДР САЕНКА, VGR.BY

**«Міс Гродна — 2015» стала Вольга Пазняковіч — студэнтка пятага курса ГрДУ імя Янкі Купалы. Яе спецыяльнасць — «турызм і гасціннасць».**




МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**У Беларусі пачалі прадавацца ўкраінскія бліны «Бендэрыкі». Супадзенне? Наўрад ці. Бендэрыкі — гэта такі від бліноў: трохкутныя, з сырым фаршам. Фарш проста размазваецца па паверхні блінца, затым блінец складаюць у трохкутнік, мачаюць у яйка і абсмажваюць да гатоўнасці. Смаката!**

## Анекдоты і жарты

* * *

Калі табе патэлефанавалі ў дамафон і спыталі: «Ты дома?», не псіхуй і спакойна адкажы: «Так, а ты дзе?»

* * *

Аднойчы трактарыст паспрабаваў тыдзень не піць і стаў узгадваць, што 10 гадоў таму прыехаў у гэтую вёску проста парыбачыць.

* * *

– Мне здаецца, што ты мяне не любіш.
– Не кажы глупства. Я ўсіх не люблю.

* * *

Расказаў сваім сябрам, што ў мяне спатканне з прыгожай дзяўчынай. Сябры жартуюць, што яна ўяўная. Іронія ў тым, што яны таксама ўяўныя.

* * *

— А як па дрэве вызначыць, дзе поўнач, а дзе поўдзень?
— Ды проста: елка — поўнач, пальма — поўдзень!

* * *

Мама, дай мне грошай на новую татуіроўку «Я ўсяго дамогся сам».

* * *

– Ты сёння ела што-небудзь?
– А ёгурт лічыцца?
– Так.
– Ну тады... бутэрброды, курыцу, пячэнькі, бульбу смажаную з катлетамі, пельмені, цукеркі, булачкі з макам і ёгурт.

* * *

Парада дзяўчыне: «Калі мужчына, які табе падабаецца, не заўважае цябе, пазыч у яго шмат грошай. Няхай толькі пра цябе і думае».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Паварот «амерыканцаў».** У апошнія часы блізка штодзень прыбываюць з Амерыкі, праз Фінляндыю і Архангельск, партыі беларусаў-сялян выехаўшых раней у Амерыку, шукаючы там працы. Вайна спыніла ў Амерыцы прамысловасць, і праз гэта заработкі там ушчуклі.

**«НН». №20. 1915.**

**Студэнты, выгнаныя з універсітэтаў** за ўдзел у вызвольным руху, распачалі галадоўку пратэсту. На стале — пітная вада і шклянкі. Гэта і падтрымка сяброў — адзінае, што жывіць хлопцаў з Жодзіна, якія 25 мая распачалі бестэрміновую галадоўку. У іх адзінае патрабаванне: «Дайце нам давучыцца». Да пратэсту гатовыя далучыцца юнакі ў іншых гарадах, якіх таксама выключылі за палітыку. Пакуль галадоўку трымаюць у прыватнай кватэры. «Есці хочацца... У мамы дома бульба смажаная і селядзец», — кажа Сяржук Мурашка, наймалодшы. Але прага ведаў і волі мацнейшая за голад: «Хай наш крык правецца праз завесу хлусні».

**«НН». №20. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 26.05.2015.
Замова №1844.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15020